# СВАБОДА

№ 1 студзень 1994 г.

Кошт 50 рублёў

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
Ігар ГЕРМЯНЧУК

Заснавальнік Павал ЖУК

Выдавец
«Газэта СВАБОДА», Ltd.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220088, Менск,
вул.Іванаўская, 56


# ШУШКЕВІЧА ЗНОЎ БУДУЦЬ ЗДЫМАЦЬ

**Як стала вядома карэспандэнту СВАБОДЫ, на сэсіі Вярхоўнага Савета 18 студзеня зноў будзе ўзьнятае пытаньне аб адстаўцы Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча.**

З гэтаю ініцыятывай пляное выступіць праўрадавае лобі з фракцыі «Беларусь». Аднак невядома, ці ўдасца ім апярэдзіць народнага змагара з карупцыяй А.Лукашэнку, які таксама не хавае сваіх намераў у чарговы раз запатрабаваць адстаўкі Шушкевіча.

Апошні раз пракамуністычная большасьць спрабавала зьняць Шушкевіча перад каладнымі вакацыямі. Момант трапіўся зручны, бо паседжаньне было закрытым. Аднак не было самога С.Шушкевіча (у яго якраз здарыўся гіпэртанічны крыз). Дыскусія пайшла «ня ў той бок», сцэнар парушаўся. Тады да мікрафона выйшаў дэпутат В.Кебіч і прапанаваў «зьняць» гэтае пытаньне. Намэнклятурныя салаўі адразу ж сціхлі, а В.Кузьняцоў, які вёў сэсію, абвясьціў паседжаньне скончаным. Дэпутаты ад Апазыцыі ўпэўнена заяўляюць, што галоўным рэжысэрам усіх гэтых спэктакляў зьяўляецца Вячаслаў Кебіч.

Па нашых зьвестках, прэзыдэнт Расеі Б.Ельцын зусім не ўхваляе гэткіх памкненьняў Кебіча. На апошняй сустрэчы ў Ашгабаце Барыс Ельцын у прысутнасьці ўсіх прэзыдэнтаў краін СНД «строга папярэдзіў» Кебіча, каб той пакінуў свае намеры выкапаць Шушкевічу яму, інакш, маўляў, запрагай каня, бо нафты ня будзе.

Бліжэйшыя падзеі на сэсіі Вярхоўнага Савета пакажуць, ці прыслухаўся тав.Кебіч да пана Ельцына.

А Шушкевіч тым часам усё яшчэ, відаць, спадзяецца дасягнуць "згоды". У асабістым навагоднім віншаваньні, якое сьпікер накіраваў кожнаму дэпутату, ён піша: «Вашыя сумленнасьць, працавітасьць, перакананасьць і пасьлядоўнасьць спрыяюць сапраўднаму адраджэньню і абнаўленьню Бацькаўшчыны!» Ну, Шушкевіч!

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

# Шэф КДБ пайшоў у «самаволку»

**Апошнія дні 1993 г. Старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі вырашыў правесьці за мяжой і 26 сьнежня зьехаў адпачываць у падмаскоўны санаторый. Намесьнік старшыні ВС Вячаслаў Кузьняцоў расцаніў гэта як «самаволку» і вырашыў неадкладна разабрацца з генэралам, не чакаючы ягонага вяртаньня.**

«Разборку» наладзілі 28 сьнежня на закрытай нарадзе членаў Прэзыдыюма ВС (аднак і адтуль да нас прасачылася інфармацыя). «Асыстэнтам» спадара Кузьняцова быў генэрал Грыб — старшыня парляманцкай камісіі па абароне і нацыянальнай бясьпецы. Абодва яны пераконвалі Прэзыдыюм, што Старшыня КДБ незаконна пакінуў службу, хоць у яго й сапраўды засталіся нявыкарыстанымі дзесяць дзён летняга адпачынку.

Пачалі разьбірацца, і высьветлілася, што Э.Шыркоўскі паехаў у адпачынак з дазволу Старшыні Вярхоўнага Савета (на рапарце стаіць уласнаручная рэзалюцыя С.Шушкевіча). Але Кузьняцоў не здаваўся: Шушкевіч, маўляў, хварэе і таму Шыркоўскі павінен слухацца мяне. Ён настойваў, каб была створаная спэцыяльная камісія «па ацэнцы гэтага факта».

У рэшце рэшт усё скончылася тым, што чатыром членам Прэзыдыюма (П.Міцьку, М.Сьлямнёву, А.Саснову, Н.Гілевічу) «абрыдла гэтая непрыстойная апаратная гульня» і яны пакінулі паседжаньне.

Такім чынам, наш прагноз, выказаны ў мінулым нумары СВАБОДЫ, пачынае спраўджвацца: пасьля вядомага ліста двух генэралаў намэнклятура будзе шукаць любую зачэпку, каб разьвітацца з «падпісантамі».

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

## Пазьняк гатовы абмеркаваць прапановы Кебіча

Але толькі пасьля адстаўкі прэм'ера

**Пра гэта карэспандэнту СВАБОДЫ распавёў адзін дэпутат, які выпадкова стаў с ведкам размовы Зянона Пазьняка з Вячаславам Кебічам.**

У кулуарах сэсіі Старшыня Саўміна сказаў лідару Апазыцыі, што мае «некаторыя прапановы» і хацеў бы сустрэцца, каб абмеркаваць іх. Пазьняк усьміхнуўся: «Я гатовы абмяркоўваць любыя прапановы. Але толькі пасьля Вашае адстаўкі».

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

# Куды пойдуць грошы

**У Дзяржаўным бюджэце на 1994 г. выдаткі на асьвету, культуру, навуку, сацыяльнае забесьпячэньне зьменшаны. Затое больш сродкаў даецца на войска.**

Расходная частка бюджэту (у % ад агульнай сумы) выглядае так:

| | |
|---|---|
| Фінансаваньне народнай гаспадаркі | 25,95 |
| Асьвета | 12,6 |
| Культура і сродкі масавай інфармацыі | 1,7 |
| Ахова здароўя | 12,6 |
| Фізычная культура | 0,3 |
| Сацыяльнае забесьбячэньне | 3,25 |
| Фінансаваньне спэцыяльных сацыяльных праграмаў і мерапрыемстваў | 0,8 |
| Выдаткі, зьвязаныя з падтрыманьнем жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва і павышэньнем яго дабрабыту | 2,7 |
| Выдаткі на навуку | 0,99 |
| Выдаткі на абарону | 4,79 |
| Выдаткі на фінансаваньне праваахоўных і судовых органаў | 3,77 |
| Выдаткі на ўтрыманьне органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня | 1,5 |
| Выдаткі на абслугоўваньне дзяржаўнай унутранай пазыкі і пазыкаў, выдадзеных пад гарантыю бюджэту | 4,2 |
| Выдаткі на ліквідацыю наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС | 10,15 |
| Іншыя выдаткі | 14,7 |

## У гонар паэта

**На куцьцю 24 сьнежня споўнілася 195 гадоў з дня нараджэньня Адама Міцкевіча. У Навагрудку і Горадні з гэтай нагоды адбыліся навуковыя канфэрэнцыі.**

Дарэчы будзе паведаміць таксама, што гарадзенскія ўлады далі дазвол на праектаваньне бюста Адаму Міцкевічу, які будзе стаяць перад Домам паляка на вул.Дзяржынскага. Помнікі Міцкевічу ўжо пастаўленыя ў Лідзе і Навагародку. Аўтар абодвух вядомы менскі скульптар Валяр'ян Янушкевіч.

**А.С.**

## АПБ гэта вам не ПКБ

**Новы год Беларусь сустрэла з прыбаўкай на палітычнай арэне. 28 сьнежня ў Менску прайшла канфэрэнцыя «антыкамуністычных сілаў». У ёй удзельнічалі 64 прадстаўнікі з усіх абласьцей Беларусі.**

Канфэрэнцыя праходзіла пры зачыненых дзьвярох, таму больш дакладныя зьвесткі невядомыя. Аргкамітэт паведаміў пра прыняцьцё рашэньня аб скліканьні 1-га зьезда Антыкамуністычнай партыі Беларусі ўвесну 1994 г. Мэтамі зьезда будуць выпрацоўка праграмы і статута, рэгістрацыя партыі ў Міністэрстве юстыцыі. Як мяркуецца, АПБ будзе партыяй парляманцкага тыпу. Пачалося стварэньне рэгіянальных адзьдзелаў партыі.

**П.Б.**

## На іх выпрабоўвалі радыяцыю

**У Горадні адбыўся абласны сход вэтэранаў падразьдзяленьняў асаблівай рызыкі.**

Гэтых людзей прымусова выкарыстоўвалі пры ядзерных выпрабаваньнях на Тоцкіх лягерах на Ўрале, на Новай зямлі і пад Сяміпаляцінскам. Удзельнікі сходу наракалі на тое, што часта ня могуць давесьці свой удзел у выпрабаваньнях. Дзеля поўнай сакрэтнасьці зьвесткі пра гэта ў асабістыя справы стараліся не заносіць. На сходзе зарэгістраваліся 49 вэтэранаў.

**С.М.**

## Радыёактыўная дзічына

**Толькі ў сямі раёнах Магілёўскай вобласьці дазволена паляваньне: там, дзе шчыльнасьць радыёактыўнага забруджваньня не перавышае дапушчальнага ўзроўню.**

Аднак, згодна са статыстыкай, і ў гэтых мейсцах з 296 адстраляных дзікіх жывёл у мясе 170 утрыманьне радыёнуклідаў перавышае норму ў 10-50 разоў. Так, у Краснапольскім і Чавускім раёнах перавышаны ўзровень радыёцэзію ў тушах 50 працэнтаў адстраляных жывёлін, у Чэрыкаўскім — у 87,5, у Слаўгарадзкім — у 95,7, а ў Быхаўскім — у 97,6 працэнта.

У сувязі з гэтым мэдыкі настойліва рэкамендуюць праваражаць дзічыну, перад тым, як яе зьесці, каб пазьбегнуць сумнай пэрспэктывы стаць хадзячым сховішчам радыёнуклідаў.

**Барыс МІХЕЕЎ**

# Апэрацыя «Крах»

**Што чакае эканоміку Беларусі ў 1994г.? Ці будзе садзейнічаць выхаду з крызысу праграма, прапанаваная ўрадам? З такімі пытаньнямі карэспандэнт БелаПАН зьвярнуўся да доктара эканамічных навук прафэсара Пятра Капітулы:**

— Што чакае нашую эканоміку — сказаць вельмі цяжка. Сытуацыя не прагназуецца, — кажа П.Капітула. — Ва ўрадавай праграме няма нават намёку на выхад з крызысу. У праграме адразу прадугледжваюцца тэмпы інфляцыі ў памеры дзесяці працэнтаў у месяц. А гэта значыць, што ў цэлым за год цэны ўзрастуць як мінімум у тры разы. Калі тэмпы інфляцыі, прадугледжаныя гэтай праграмай, будуць захоўвацца, то я сьмела кажу, што эканоміка зь месца не зварухнецца, яе развал будзе прагрэсаваць. Пры такім становішчы навукова-прамысловы патэнцыял Беларусі пацерпіць поўны крах. Нам давядзецца адраджацца як аграрнай краіне. Пачынаць з таго, з чаго пачынаўся капіталізм гадоў дзьвесьце таму.

**Віктар ФЕДАРОВІЧ**

# Нямецкі прагноз для Усходняй Эўропы

**Інстытут Эканамічных Дасьледаваньняў IWH з горада Хале апублікаваў прагноз эканамічнага разьвіцьця краінаў Цэнтральнай і Усходняй Эўропы на 1994 год.**

Увогуле прагноз гэты пэсімістычны, дынаміка гаспадарчага разьвіцьця ацэньваецца як сумніцельная. Прычынай мае быць нізкі ўзровень інвэстыцыяў, які тармозіць структурныя зьмены. Таму для большасьці згаданых у прагнозе краінаў будзе немагчымае дасягненьне таго ўзроўню валавага нацыянальнага прадукту на душу насельніцтва, што быў да пачатку зьменаў.

Краіны падзеленыя IWH на дзьве катэгорыі. Да першай былі залічаныя рэфарматарскія дзяржавы Цэнтральнай Эўропы — Польшча, Чэхія, Вугоршчына, Славакія, балтыйскія краіны і, з пэўнымі агаворкамі, Балгарыя. Усе яны маюць адну агульную рысу — узровень інфляцыі ў іх удалося абмежаваць да 1-2% у месяц.

Толькі для дзьвюх з гэтых краінаў IWH прагназуе дадатны эканамічны рост. На першым мейсцы апынулася Польшча з 4%, на другім Чэхія з 1%. У Вугоршчыне мае быць стагнацыя. Астатнія краіны будуць мець адмоўныя пакзчыкі росту. Славакія — паводле прадказаньняў IWH — мінус 2%.

Экспарт гэтай групы краінаў будзе затармажаны эканамічным спадам у разьвітых краінах Захаду, драматычна пагоршыцца гандлёвы баланс.

Драматычнай мае быць і сытуацыя ў дзяржавах СНД, Сэрбіі, Чарнагорыі, а таксама Румыніі. Гэтыя краіны ўжо даўно апынуліся ў хвасьце рэфарматарскіх краінаў і ў будучым годзе будуць адчуваць наступствы ўцёкаў капіталу, сплываньня валютных рэзэрваў, шалёнай інфляцыі ды гвалтоўнага спаду вытворчасьці. Для Украіны, Расеі і Беларусі IWH прадказвае спад валавага нацыянальнага прадукту на двухзначную лічбу, г.зн. ня менш чым 10%.

# Забойства на вуліцы Леніна

**Трагічны выпадак здарыўся ў Сьветлагорску. Начальнік Адзьдзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцю (АБЭЗ) застрэліў 23-гадовага хлопца.**

Трое мясцовых хлопцаў шукалі, каму прадаць каляровы мэталь. У абласной газэце «Гомельская праўда» прачыталі аб'яву: «Арганізацыя купіць каляровыя мэталі па высокай цане». Вырашылі патэлефанаваць. «Арганізацыя» прызначыла ім сустрэчу: 10 сьнежня, а 12-й гадзіне, на вуліцы Леніна, ля гатэля.

У вызначаны час побач з гатэлем хлопцаў чакалі двое прадстаўнікоў «арганізацыі». Дамовіліся пра цану, пасьля гэтага адзін з «пакупнікоў» пайшоў тэлефанаваць, каб «параіцца з начальствам». І раптам — падлятаюць двое «жыгулёў», зь іх выскокваюць 8 чалавек зь пісталетамі. Кляцаюць затворы. Хлопцам загадалі легчы на капоты машын тварамі ўніз. Яны так перапалохаліся (ім здалося, гэта напалі рэкеціры), што нават не спрабавалі супраціўляцца. Але іх пачалі біць рукаяткамі пісталетаў. У момант чарговага ўдару па сьпіне і быў націснуты курок. Куля трапіла проста ў патыліцу.

«Я падняў галаву і ўбачыў, што Уладзімер, увесь заліты крывёю, хапаючыся за машыну, спаўзае на зямлю. У гэты момант мяне зноў ударылі па галаве і загадалі не глядзець», — расказвае Сяргей Бусел.

Тады ніхто з хлопцаў ня ведаў, што гэта быў ня рэкет, а міліцэйская апэрацыя, якою кіраваў сам начальнік АБЭЗ Анатоль Адаменка. Менавіта ён і зрабіў гэты сьмяротны стрэл.

У забітага Уладзімера Дайнэкі засталася ўдава з двухгадоваю дачкою на руках.

Расьсьледваньнем справы аб «ненаўмысным забойстве» займаецца мясцовая пракуратура. Там, паводле нашых зьвестак, дзеяньні начальніка АБЭЗ імкнуцца апраўдаць. А калі верыць Беларускаму радыё, дык ён і зусім герой. 13 сьнежня ў эфіры прагучала: пры аказаньні збройнага супраціву загінуў злачынца...

Між тым, ніякай зброі ў хлопцаў не было. Па іх словах, яны абсалютна не супраціўляліся. Усё іхняе «злачынства» было ў тым, што назьбіралі 381 кг мэталёвага лому ды хацелі яго выгадна прадаць. Трэба падкрэсьліць — гэта былі не мэталёвыя вырабы, здабытыя якімсьці незаконным шляхам, а менавіта лом каляровых мэталяў, які пры жаданьні можна назьбіраць у ваколіцах горада. І ўсё, напэўна, абышлося б добра, прадалі б хлопцы свой тавар, калі б не наткнуліся на міліцэйскую аб'яву. Цана сапраўды атрымалася занадта высокай...


Уладзімер ДАЙНЭКА

Гэты стрэл узрушыў увесь Сьветлагорск, горад поўніцца абурэньнем. Грамадзкая думка цалкам на баку хлопца. Паводле неафіцыйных зьвестак, сям'я шэфа АБЭЗ зьехала з горада, сам ён не начуе дома.

**Тэльман МАСЬЛЮКОЎ**

**P.S.** Масла ў агонь падліла яшчэ адна сумная вестка: 27 сьнежня ў лесе непадалёк Сьветлагорска (каля вёскі Печышчы) быў знойдзены труп хлопчыка — аднаго з тых чатырох дзяцей (9—14 гадоў), што адзін за адным зьнiклі на працягу першай паловы 1993 г. Парэшткі першага дзіцяці выпадкова знайшлі два месяцы таму. Цяпер другое... А на сьлед злачынцы сьледзтва пакуль так і ня выйшла.

**Т.М.**

# Ці будзе страйк?

**На 12 студзеня прызначаны ўсебеларускі страйк. Але хутчэй за ўсё гэта будзе ўсяго толькі «выпусканьне пары». Масавай акцыі пратэсту не прадбачыцца.**

Ініцыятарамі гэтага страйку выступаюць афіцыйныя прафсаюзы — Фэдэрацыя прафсаюзаў Беларусі, некаторыя галіновыя прафсаюзы, у тым ліку прафсаюз настаўнікаў. Яны вылучаюць практычна толькі эканамічныя патрабаваньні. Чакаецца, што некаторыя з гэтых патрабаваньняў (падвышэньне заробку, сьпісаньне запазычаньняў з прадпрыемстваў-банкрутаў і інш.) будуць задаволеныя ўрадам пасьля 6 студзеня. У гэты дзень з прафсаюзнымі лідарамі плянуе сустрэцца Старшыня Саўміна В.Кебіч.

Да 12 студзеня цэны на асноўныя прадукты і гарэлку, па нашых зьвестках, урад вырашыў не падвышаць. Больш за тое, зь дзяржаўнага рэзэрвовага фонду, які выкарыстоўваецца ў надзвычайных выпадках, будзе выкінутая на прылаўкі частка харчоў.

Такім чынам, афіцыйныя прафсаюзы і ўрад зьбіраюцца згуляць сваю чарговую партыю ў традыцыйным стылі.

Незалежныя прафсаюзы і страйкавыя камітэты, выдатна разумеючы сутнасьць гэтай гульні, вырашылі ўсё ж падтрымаць абвешчаны на 12 студзеня страйк, вылучаючы найперш палітычныя патрабаваньні — неадкладная адстаўка ўрада Кебіча і правядзеньне датэрміновых выбараў у сакавіку 1994 г.

**Алесь ЛІНЬНІК**

Аўт.
Серада — 12
Бел. мова
чытанне 12, 13, 14, студзеня
Матэм. ў школу не прыходзіць
Англ. мова будзе забастоўка.
Спевы

Прапушчана ўрокаў ______ з іх па хваробе ______

# Гара нарадзіла мыш

**Афіцыйныя прафсаюзы актыўнічаюць ня толькі ў Менску, але і «на мейсцах». Прыкладам, нядаўна ў Горадні прафсаюзьнікі сабраліся, каб абмеркаваць зварот да ўрада і ВС, а таксама вырашыць, ці праводзіць агульнагарадзкі мітынг.**

### Лепей прадавацца за рублі?

Патрабаваньні прафсаюзаў вядомыя: спыніць развал эканомікі, стрымаць рост цэнаў, запабегчы масаваму беспрацоўю і г.д. Цікавай была сама гутарка ў аблсаўпрафе. З запрошаных кіраўнікоў прадпрыемстваў на сходку прыйшлі толькі двое — ген. дырэктар аб'яднаньня «Волна» сп.Апакаў ды ген. дырэктар «Гроднапрамбуда» сп.Дзяжко.

Першы зь іх адразу схапіў «быка за рогі», заявіўшы, што неабходна тэрмінова вярнуцца назад у СССР. Яго падтрымаў калега Дзяжко: «Трэба зноў сабрацца ў Белавежскай пушчы ды інтэгравацца ў Расею. Лепш, каб усё было па-старому». Шэф аблсаўпрафа В.Кобрын запярэчыў ім: Расея ды Украіна ня робяць спробаў аб'яднацца. Тады спадар Апакаў пачаў скардзіцца на тое, што «машыны стаяць на мяжы з Расеяй па 2—3 сутак». Яму патлумачылі, што чэргі будуць заўсёды, пакуль будуць існаваць дзяржавы...

Вельмі спрачаліся прысутныя пра беларускую валюту ды рублёвую зону, куды надта карціць падаца двум дырэктарам. Прафсаюзныя лідары адно дзівіліся: навошта лезьці, як у вір, у тую рублёвую зону, калі ніхто ня ведае, што гэта такое? Навошта прывязваць сябе да расейскага рубля, які цэлы час дэвальвуе, а не да стабільнага даляра? Але, паводле сп.Апакава, тады давядзецца прадавацца Захаду. «А што, выходзіць, лепей прадавацца Расеі?» — пацікавіліся ў яго. Аказалася, што ёсьць тут адна «тонкасьць». Расеі, маўляў, не прадаюцца, зь ёй «дружаць».

Калі спадар Апакаў пачынаў гаварыць, мой сусед — старшыня прафсаюза аднаго з буйных прадпрыемстваў — кпіў: «Ну вось, зноў Казань загаварыла». Рэч у тым, што «Волна» — вайсковае прадпрыемства, усё начальства, разам з галоўнымі спэцыялістамі, прысылалася сюды заўсёды ажно з Казані. Дзіўна было чуць ад прадстаўніка ці ня самай незалежніцкай (пасьля Чачні) у РФ рэспублікі — Татарстана — заклікі да славянскай кансалідацыі ды фактычнай адмовы ад беларускага сувэрэнітэту. Зрэшты, сп.Апакаў раскрыў свае карты цалкам. Пасьля словаў «или мы поддержим политику правительства, или будем слушать этих баламутов» ён прызнаўся, што зьяўляецца членам савета Беларускай навуковапрамысловай асацыяцыі й дзень назад у складзе 20-ці «красных дырэктараў» сустракаўся з самім Кебічам.

Карацей кажучы, дырэктары спрабавалі дыктаваць прафсаюзьнікам сваю (чытай: Кебічаву) волю, але ў рэшце рэшт згадзіліся адлусьціць сваіх рабочых на мітынг.

### Усім выступіць не далі

15 сьнежня зь ініцыятывы прафкамаў дзесяці прадпрыемстваў у Горадні адбыўся мітынг. Рабочыя прыйшлі на пляц пад сьцягамі ў калёнах, праўда, нешматлюдных. Прамоўцаў было зь дзесятак. Бадай, толькі выступ старшыні гарадзкой Рады БНФ К.Жыня прысутныя ўхвалілі воплескамі. Пасьля гэтага ў БНФ, па нашых зьвестках, запісалася 20—30 чалавек. Нам. старшыні прафкама аб'яднаньня «Азот» Ул.Буздалін сказаў нават вершам, прычым настолькі апэратыўным, што ў ім згадваўся ўчарашні скандальны выступ у ВС дэпутата Лукашэнкі. Ня раз, калі заходзіла мова аб карупцыі, успаміналі прозьвішча нябожчыка Арцымені.

Прамовы, зрэшты, былі вельмі розныя. Адныя выкрывалі ўрад з парлямантам, іншыя крытыкавалі саміх гарадзенцаў, якія не прыйшлі на мітынг. «Не в дугу» прамовіў сьлесар Філін: «Произошла измена курса нашей Родины. Нужно немедленно восстановить Советский Союз». Ахвотнікаў пагаварыць ля мікрафона ў натоўпе аказалася вельмі багата, але прафсаюзьнікі ім адмовілі, а мітынг скончылі ў тэрмін. Удзельнікі прынялі зварот з сацыяльна-эканамічнымі патрабаваньнямі да ўрада і ВС. Калі іх ня выканаюць, дык прафсаюзы запатрабуюць адстаўкі абодвух органаў дзяржаўнай улады і распачнуць страйк. Тэрмін ім далі — да 15 студзеня, г.зн. дакладна месяц. Атрымалася, што пагаманілі дзеля самазаспакаеньня ды вырашылі яшчэ пачакаць: а раптам здарыцца цуд і наш капітулянцкі ўрад нас уратуе?

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**




# БЕДНЫЯ ДЭПУТАТЫ

**Судом Маскоўскага раёна Менска прызнаны правамоцным іск кіраўніцтва Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў у абарону свайго гонару і годнасьці да народных дэпутатаў В.Паўлава, Л.Прывалава, В.Сарокіна, А.Новікава.**

Аднак задаволены ён будзе часткова: суд паменшыў памер кампэнсацыі за маральныя страты на карысьць іскоўцаў з 20 мільёнаў да 1 мільёна 100 тысяч рублёў, бо, згодна з даведкамі, пададзенымі 16 снежня 1993 года, матар'яльнае становішча адказчыкаў вельмі цяжкае. Напрыклад, месячны даход аднаго з дэпутатаў-генэралаў, паводле даведкі, складае толькі 86 тысяч рублёў. Але кіраўніцтва БЗВ мае намер абскардзіць рашэньне суда, бо названая сума даходу нават меншая за сярэднюю пэнсію прапаршчыкаў запасу. Калі ж пацьвердзіцца цяжкае фінансавае становішча дэпутатаў, БЗВ адмовіцца ад свайго матэр'яльнага іску.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ,**
БелаПАН

# Лукашэнка знайшоў аднадумцаў?

**Паводле зьвестак БелаПАН, у канцы сьнежня адбылася сустрэча нардэпа Аляксандра Лукашэнкі і старшыні Народнага руху Беларусі Сяргея Гайдукевіча.**

С.Гайдукевіч палічыў за лепшае не паведамляць карэспандэнту аб канкрэтных тэмах сустрэчы, аднак адзначыў, што «Лукашэнка і Гайдукевіч — адзінае цэлае». Гайдукевіч сказаў таксама, што іхнія з А.Лукашэнкам погляды па палітычных пытаньнях амаль цалкам супадаюць.

**Віктар ДЗЯТЛІКОВІЧ**

**Горадня**

# Мастацтва і sztuka

### Галерэя насупраць турэмнае брамы

Пашанцавала ў сьнежні гарадзенскаму мастаку Уладзімеру Голубу. У выставачнай залі на вул. Ажэшкі ягоныя творы засталіся на другі тэрмін. Іх павінны былі замяніць карцінамі беластоцкіх мастакоў, але не замянілі. На адкрыцьцё выставы сабраліся журналісты, якім і паведамілі, што палякі карціны прапусцілі, а нашыя мытнікі ўзялі дый затрымалі.

А вось працы вядомага ў Горадні скульптара Ул.Церагуна, здаецца, без перашкодаў пакінулі межы Беларусі. З 2 па 22 сьнежня ў Лёндане ў прыватнай галерэі Coventry выстаўляліся 12 ягоных скульптураў, 10 кэрамічных твораў і 10 малюнкаў. Гэта была супольная выстава 12-ці аўтараў з розных краінаў, якіх вылучыў і чые творы адабраў адзін амэрыканскі прадзюсэр. Беларусь прадстаўляў толькі гарадзенскі майстар.

А тым часам карціны польскай выставы, што адчынілася ў Новым каралеўскім замку, ні на які мытны догляд прадстаўляць не давялося. Рэч у тым, што гэта першая выстава Таварыства польскіх мастакоў (ТПМ) пры Саюзе палякаў Беларусі (СПБ). Яно створанае паўтара года таму і налічвае каля 30 чалавек. Праўда, ёсьць такая цікавая акалічнасьць: сябра №1 у Таварыстве зусім не мастак. Гэтае ганаровае мейсца належыць старшыні СПБ Тадэвушу Гавіну.

Напярэдадні Новага года насупраць галоўнай брамы Гарадзенскай турмы адчынілася мастацкая галерэя. Мейсца, бадай, ня дужа прыдатнае, але рэч у тым, што менавіта тут была першая на наш час гарадзенская прыватная мастацкая крама. Пасьля крама пераехала на ўскраіну горада, а ў памяшканьні пасьля рамонту зрабілі невялікую ўтульную карцінную галерэю.

### Палкоўнік хоча набыць нацюрморт

Гарадзенскі гарвыканкам пасьля жнівеньскага путчу 1991г. пераехаў у дыхтоўны падвойны будынак злучаных паміж сабой гаркаму і Ленінскага райкаму КПБ. Барэльеф Ільіча, стэнды зь ягонымі цытатамі ды іншую наглядную агітацыю давялося прыбраць. Сьцены агаліліся і выглядалі зусім няўтульна. Паступова ў выканкамаўскіх габінэтах пачалі зьяўляцца мастацкія творы. А цяпер і гарадзкая мастакоўская арганізацыя вырашыла падарыць роднай мэрыі 15 карцінаў. З гэтае нагоды адбылася сустрэча новага мэра Горадні Генрыха Крупенькі з мастакамі. Паводле ягоных словаў, гарадзенскія ўлады традыцыйна дбаюць пра творцаў, стараюцца забясьпечыць памяшканьнямі для працы.

Адзін мастак парайнаў гэтую сустрэчу з тою, на якую калісьці запрашаў першы сакратар абкаму КПБ Сямёнаў. Мастакоў тады чакала, вядома ж, не размова пра мастацтва, у якім начальства традыцыйна нічога не разумела, а звычайная палітінфармацыя. Тав.Сямёнаву заманулася палепшыць ідэалягічны ўзровень запрошаных, і ён па сваёй завядзёнцы пачаў ганіць Ельцына, Бразаўскаса ды БНФ.

У дзьвюх старых вадаводных вежах, што стаяць побач зь мейсцам пасяданьня ўладаў, разьмешчаныя мастацкія майстэрні. Дык туды да аднаго з мастакоў неяк нядаўна завіталі міліцыянты — палкоўнік з падпалкоўнікам. Толькі мастак пачаў прыкідваць, у чым жа ён мог завініцца, як галоўны растлумачыў, што хоча набыць якую-небудзь карціну і прыйшоў параіцца. Ён, дарэчы, пачуўшы беларускую гаворку, таксама стаў гаварыць па-беларуску і прадставіўся: палкоўнік Грымута. Адныя дзівосы.

### Мастакі малююць па-польску?

А цяпер зноўку вернемся да польскай выставы ў Новым замку. Некаторыя мастакі, зь якімі мне давялося размаўляць на яе адкрыцьці, прынамсі скептычна паставіліся да падзелу калегаў паводле нацыянальнасьці. Засталося хіба яшчэ толькі расейцам стварыць у нас свой Саюз мастакоў, гаварылі яны мне. Імкненьне згрупаваць мастакоў, якія паводле пашпарту — палякі, прывяло да таго, што тут сабраныя, апроч некалькіх прафэсіяналаў, таксама й тыя, хто хоць як-колечы ўмее маляваць. Вось чаму агульны ўзровень палотнаў ня дужа высокі, а ёсьць працы наогул вельмі слабыя.

Скептыкі гаварылі мне таксама: можна зразумець, калі аб'ядноўваюцца ў падобных выпадках пісьменьнікі або журналісты: яны твораць на адной і той жа мове, хоць бы сабе й на польскай. А вось ці ствараюць польскае мастацтва ўдзельнікі гэтай выставы, дык у гэтым няма пэўнасьці, бо, прыкладам, немалая частка выстаўленых карцінаў адлюстроўвала няўдалыя спробы капіяваць манэру расейскіх мастакоў-перасоўнікаў XIX ст.

Скептыкі, канечне, шмат у чым маюць рацыю. Згадайце, як мы рэўнасна падкрэсьлівалі, што Лявон Тарасэвіч, які жыве ў Польшчы на Беласточчыне, менавіта беларускі мастак, а ягоныя творы пры гэтым ведаюць у буйных галерэях у розных кутках сьвету. Ці ж хіба мы не ганарымся тым, што ў Польшчы існуюць таварыствы беларускіх журналістаў і пісьменьнікаў? Хіба ня цешымся з таго, што нацыянальна сьведамыя беларускія мастакі жывуць і працуюць у Злучаных Штатах? Усё пытаньне хіба ва ўзроўні. Ганарыцца дылетантствам ня варта...

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Французы будуць лавіць рыбу ў былой пагранзоне

**У Горадні з дапамогай французаў створана сумеснае турыстычнае бюро, якое будзе распрацоўваць маршруты, выдаваць адпаведную літаратуру, рыхтаваць кадры.**

Праект фінансуе Міністэрства турызму Францыі. Арганізаваць стажыроўку ў гэтай краіне наших спэцыялістаў грашова дапаможа Эўрапейская супольнасьць. Пратакол пагадненьня аб гэтым падпісаны 10 сьнежня спадаром Жакам Арагонам, прэзыдэнтам Фэдэрацыі турыстычных офісаў Францыі. Дарэчы, наш беларускі закон аб турызме распрацаваны паводле францускага.

З французскага боку на адкрыцьці турбюро прысутнічалі віцэ-прэзыдэнт Нацыянальнай фэдэрацыі турызму Марк Дэмулен, сп. Жак Арагон, які ўжо ў восьмы раз наведаў Горадню, а таксама дарадца па культуры французскай амбасады ў Менску Аляксандар Талстой. Паводле пратакола спадар дарадца гаварыў па-француску, а парасейску адказваў на пытаньні прэсы. Прысутныя даведаліся ад яго, што візы ў Францыю можна будзе афармляць у Менскім пасольстве, а не ў Маскоўскім толькі тады, калі беларускі ўрад выдзеліць адпаведнае памяшканьне... Ня дзіва, што нашую краіну дагэтуль мала ведаюць. Намесьнік старшыні Гарадзенскага гарвыканкаму Аляксандар Мілінкевіч прывёў анэкдатычны выпадак: французскія госьці прывезлі яму слайды Жана Эмануіла Жалібэра, які ў канцы XVIII ст. заснаваў у Горадні батанічны сад. Слайды ласкава падарылі земляні вядомага батаніка зь Ліёнскага турыстычнага бюро. На капэрце быў пазначаны адрас: г.Горадня, Польшча.

У 1994 г. да нас прыедзе першая група французскіх турыстаў-рыбалоўцаў. Яны будуць рыбаліць на дзьвюх рэчках каля Аўгустоўскага канала ў былой пагранічнай зоне. Гэтыя рэчкі цякуць з Польшчы, у іх чыстая вада, а таму водзіцца стронга. Наступнымі за рыбалоўцамі Горадню наведае група французскіх бізнэсмэнаў зь Ліможа. Госьці выказалі пажаданьне, каб Беларусь пачала разьвіваць турыстычны бізнэс гэтак імкліва, як Партугалія ды Грэцыя, якія такім чынам значна палепшылі свае эканамічныя справы.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**




*Slava trudu!*

**Слонім**

# ХАЎТУРНАЯ ІДЫЛІЯ

У Слоніме зь дзесяці школаў сем беларускіх. Самае цікавае, што беларускай будзе і школа ў мікрараёне Энка, які пабудавалі туркі для вайскоўцаў.

У Энцы самы папулярны ў горадзе рэстаран, які заўсёднікі называюць «Стамбулам». У ім курцам не забаронена паліць. Дазволілі гэта і яшчэ ў адным рэстаране — «Слоніме».

У горадзе праектуюцца гідраэлектрастанцыя, завод сухога малака ды новы жылы мікрараён на 1614 кватэр. Дарэчы, палова дзяржаўных кватэраў ужо прыватызаваная слонімцамі.

За 11 месяцаў 1993 г. гарадзкі выцьвярэзьнік абслужыў 1202 чалавекі, а міліцыя зьліквідавала 136 ачагоў самагонаварэньня.

Слонімскія пажарнікі са жніўня не атрымлівалі заробку, хоць спраўна тушылі полымя.

На нарадзе начальнікаў штабоў грамадзянскай абароны раёна падведзеныя вынікі. Начальнік Слонімскага гарадзкога штабу сп.Кукушкін назваў пераможцаў, ім уручылі прэміі. Лепшым выявіўся штаб грамадзянскай абароны воданапорна-каналізацыйнай гаспадаркі.

У лістападзе адзін паляўнічы забіў у лесе дзіка — і дзевяць чалавек захварэлі на цяжкую хваробу трыхінелёз, бо лясны волат быў хворы...

На тэрыторыі прыгараднага Альбэрцінскага лясьніцтва створаны батанічны заказьнік, дзе будуць вырошчваць і зьбіраць рэдкія лекавыя зёлкі, занесеныя ў «Чырвоную кнігу», — напрыклад, кадзіла сармацкае. Праўда, абласным уладам яшчэ раней заманулася пабудаваць на тэрыторыі сёньняшняга заказьніка хімічны завод.

Кіраўніцтва Менскай духоўнай сэмінарыі, што месьціцца паблізу Слоніма ў Жыровічах, пабывала ў Нямеччыне на царкоўна-гістарычнай навуковай імпрэзэ. Рэктар сэмінарыі — япіскап Навагрудзкі і Лідзкі Канстанцін — прачытаў даклад «Жыцьцё і працы расейскага багаслова Нясьмелава», а ігумэн Нікан паведаміў аб праблемах расейскага царкоўнага расколу XVII ст. Немцы нават засумняваліся, ці існуе беларуская царква. Каб спраўдзіць гэта, было дамоўлена пра стажыроўку жыровіцкіх сэмінарыстаў у Нямеччыне ў Вэстфалене.

У Слоніме з усяе вобласьці, бадай, самыя танныя пахавальныя паслугі. Агулам хаўтуры з катафалкам, але без аркестра абыходзяцца ў 75—80 тыс. рублёў, прычым труна каштуе ўсяго 35 тыс., крыжы таксама недарагія. Рэч у тым, што пакуль усе рытуальныя прылады вырабляюцца з дрэва ды іншых матэр'ялаў, куплёных па старых цэнах. У новым годзе гэтак танна пахаваць нябожчыка ўжо ня ўдасца.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Статкевіч кліча ў палітыку

**— Хоць БЗВ па-ранейшаму не вылучае палітычных лёзунгаў, аднак сёньня ўпершыню я хачу публічна заявіць, як прыватная асоба, што буду заклікаць сваіх сяброў, каб яны ішлі ў палітыку, каб кожны зь іх выбіраў палітычную партыю ў залежнасьці ад сваіх поглядаў. Бо тое, што цяпер робіцца ва ўрадзе і Вярхоўным Савеце, далей цярпець нельга. Тыя людзі, якія сёньня знаходзяцца каля кармушкі, загубяць і нас, і нашу краіну, — так заявіў на сустрэчы ў Слоніме Старшыня БЗВ Мікалай Статкевіч.**

На той сустрэчы, якая была арганізаваная па ініцыятыве мясцовай суполкі Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў, у асноўным прысутнічалі афіцэры-адстаўнікі. А вось вайскоўцаў у пагонах камандаваньне слонімскай брыгады папярэдзіла: той, хто зьявіцца на сустрэчу, будзе адразу ж звольнены з войска.

Чаго гэтак палохаецца вайсковае начальства, можна здагадацца. М.Статкевіч расказаў ня толькі пра мэты і дзейнасьць сваёй грамадзка-патрыятычнай арганізацыі, але паведаміў таксама пра злоўжываньні ў войску. Старшыня БЗВ распавёў, у прыватнасьці, пра апэрацыі Фонду сацыяльнай абароны ваеннаслужачых, якім кіраваў хтосьці Гайдукевіч (цяпер ён узначальвае нейкае там «Народное движение Беларуси»).

— У 1991 г. гэты Фонд атрымаў зь дзяржаўнага бюджэту 13 млн. рублёў на будаўніцтва жыльля для афіцэраў, — падкрэсьліў сп.Статкевіч. — Але замест будаўніцтва яны пачалі раздаваць беспрацэнтовыя пазыкі камэрцыйным структурам. Напрыклад, 1,5 млн. рублёў было перададзена фірме «Біамед», дзе сярод заснавальнікаў — жонка Гайдукевіча. У 91-м годзе на тыя грошы можна было пабудаваць пяціпавярховы дом, а цяпер, калі грошы вярнулі, гэтага ня хопіць нават на прыбіральню. Чыноўнікі Сауміну праводзілі праверку, — як і варта было чакаць, «злоўжываньняў ня выяўлена».

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

Уладзімер НОВІК

# За ўрадам Кебіча хутчэй за ўсё стаяць расейскія спэцслужбы



Уладзімер Новік, 41 год. Дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі. Скончыў фізычны факультэт Белдзяржуніверсытэта. Працаваў у ваенна-прамысловым комплексе. З 1990 г. — сакратар Камісіі ВС па прамысловасьці.

У канцы сьнежня мінулага года Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў шэраг дакумэнтаў, якія павінны вызначыць стан беларускай эканомікі на бліжэйшую пэрспэктыву. Аднак разглядаць грашова-крэдытовую палітыку на 1994 г. вышэйшы заканадаўчы орган Беларусі катэгарычна адмовіўся. Як заявілі дэпутаты ад пракамуністычнай большасьці, ня нашая гэта справа — самім вызначаць грашова-крэдытовую палітыку сувэрэннай Беларусі. Вось зьезьдзіць В. Кебіч у Масвку да В.Чарнамырдзіна — што той скажа, тое мы й прымем пасля 18 студзеня 1994 года.

Наш прэм'ер любіць езьдзіць да Чарнамырдзіна, бо той заўсёды яму нешта паабяцае: то танную нафту і газ, то скасаваньне расейскіх мытняў з 15 сьнежня 1993 года. Хоць расейскі прэм'ер выконваць свае абяцанкі не сьпяшаецца, гэта не так ужо і важна для нашага прэм'ера. Галоўнае — зь якім імпэтам пасьля чарговае паездкі ў Маскву можна будзе ў прэсе альбо з трыбуны Вярхоўнага Савета заяўляць: я, маўляў, дамовіўся з Чарнамырдзіным пра суперпаслабленьні для Беларусі, і сам Ельцын гэта адобрыў. Герой дый толькі.

Вы скажаце: пры чым тут Кебіч? Гэта ж Чарнамырдзін такі-сякі, гэта ж ён не выконвае свае абяцаньні. Але Чарнамырдзін як раз нармальна дбае пра інтарэсы сваёй дзяржавы. У адрозьненьне ад нашага прэм'ера, які найперш клапоціцца пра задавальненьне інтарэсаў «старшага брата», а ўжо потым пра інтарэсы Беларусі. Звыклае і добра вядомае: «кабы чего не вышло».

Каб пераканацца ў беспэрспэктыўнасьці ўрадавых падыходаў да выйсьця з крызысу, варта разам глянуць на прынятыя Вярхоўным Саветам дакумэнты ды ацаніць рэальную сытуацыю ў грашова-крэдытовай сфэры Беларусі.

Такім чынам, Беларусь уступіла ў Новы год без дакладна вызначанай грашова-крэдытовай палітыкі. Ва ўступнай частцы Пастановы Вярхоўнага Савета па эканамічнай праграме беларускага ўрада на 1994 г. канстатуецца наступнае: не прыпынены спад вытворчасьці; ня зьніжаная інфляцыя; ня спынене падзеньне жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва... У кожнага грамадзяніна Беларусі адразу ўзьнікае шмат рэзонных пытаньняў. Чаму, напрыклад, ня зьніжаная інфляцыя? Хто ў гэтым вінаваты? А ці ня сьведчыць гэта, што пэўныя палітычныя і фінансавыя колы зацікаўленыя ў росьце інфляцыі? Хутчэй за ўсё гэта сапраўды так. Дык і трэба было адкрыта запісаць, што ў інтарэсах пэўных палітычных і фінансавых колаў Саўмін ды Вярхоўны Савет Беларусі не рабілі заходаў да зьніжэньня тэмпаў інфляцыі, адмаўляліся стварыць стабільную ўласную грашовую сыстэму, што ўрэшце й выклікала катастрафічны спад вытворчасьці і пагаршэньне сацыяльна-эканамічнага становішча.

Далей у Пастанове Вярхоўнага Савета называюцца перадумовы паляпшэньня эканамічнае сытуацыі на Беларусі: стабілізацыя вытворчасьці; зьніжэньне тэмпаў інфляцыі да памяркоўнага ўзроўню; стабілізацыя курсу цяперашняй валюты; паляпшэньне плацёжнага балянсу і г.д. Але гэта ўсяго толькі добрыя намеры. Як, напрыклад, можна садзейнічаць стабілізацыі курсу не дакладна вызначанай, а нейкай «дзеючай на тэрыторыі Беларусі валюты»? Можна з упэўненасьцю сьцьвярджаць, што займацца стабілізацыяй расейскага рубля або амэрыканскага даляра ў дзяржаве Беларусь — гэта азначае падрываць нашую эканоміку і рабаваць уласны народ, (дзеля ўмацавання эканомік тых дзяржаваў, валюты якіх будуць хадзіць на Беларусі). Хто распрацоўвае такую палітыку? Урад сувэрэннай Беларусі ці замежная спэцслужба? Хутчэй за ўсё апошняе.

Галоўнай задачай Эканамічнай праграмы ўрада і Асноўных накірункаў грашова-крэдытовай палітыкі павінна было стаць станаўленьне ўласнай грашовай сістэмы, яе стабілізацыя і на аснове гэтага — стварэньне рэальных умоваў выйсьця з крызысу. Я глыбока пераканаыі, што без гэтага выхад з крызысу проста немагчымы. Зьвернемся да фактаў, што пацьвярджаюць гэтыя высновы.

Вясной і ўлетку 1993 г. ўрад Расеі, на які ўвесь час арыентуецца і беларускі ўрад, ледзь ня кожны дзень заклікаў краіны СНД прытрымлівацца ўзгодненай фінансава-эканамічнай стратэгіі. У падмурак гэтае стратэгіі Масква закладала гэтак званую рублёвую зону новага тыпу, у якой эмісійныя і крэдытовы рычагі заставаліся ў ейных руках. Гэтая стратэгія была ў рэшце рэшт замацаваная 8 верасьня 1993 г. ў Пагадненьні аб аб'яднаньні грашовай сыстэмы Беларусі з грашовай сыстэмай РФ.

Да чаго гэта прывяло, мы добра ведаем. У першую чаргу — да яшчэ большага падрыву беларускай эканомікі і большай залежнасьці ад Расеі. Аб'яднаньне грашовых сыстэмаў без уваходжаньня Беларусі ў склад Расеі — гэта ілюзія, якая будзе й надалей разбураць эканоміку Беларусі. Як ужо адзначалася, 2 сьнежня 1993 г. Старшыня Савета Міністраў Беларусі В.Кебіч заявіў Вярхоўнаму Савету, што Расея з 15 сьнежня здымае мытні са свайго боку. Дзеля справядлівасьці трэба адзначыць, што такі крок Расеі дазволіў бы Беларусі неяк ураўняць базавыя цэны на энэрганосьбіты і сыравіну, пастаўляныя з Расеі, і такім чынам зьнізіць сабекошт прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў, павысіць яе канкурэнтаздольнасць на расейскім рынку. Нагадаю, што ў кошце кожнай тоны камэрцыйнае нафты, што паступае на Беларусь з Расеі, $39 — мытная пошліна (30 ЭКЮ). Аднак мытні з боку Расеі ня толькі ня зьнятыя, а наадварот, узмацняюцца. Гэта сведчыць пра жаданьне Расеі як мага больш жорстка і пасьлядоўна бараніць уласныя эканамічныя інтарэсы, нават праз ігнараваньне эканамічных праблемаў самага адданага партнэра — Беларусі.

Тым ня менш на пачатак сьнежня 1993 г. запазычанасьць Расеі краінам СНД толькі па гандлёвых плацяжох перавышала 3 трлн. расейскіх рублёў, але чамусьці ніхто не прад'яўляе Маскве прэтэнзіяў. А ў той жа час Расея гатова драць са сваіх даўжнікоў па тры скуры за пратэрміноўку плацяжоў. Такія вось дружалюбныя адносіны пануюць у СНД.

У аднабаковым парадку, без узгадненьня з краінамі-партнэрамі па СНД Расея правяла ў 1992-93 гадах грашовую рэформу. Можна адназначна сьцьвярджаць, што гэтая рэформа была скіраваная на стабілізацыю грашова-крэдытовай сыстэмы Расеі, а таксама на экспрапрыяцыю сродкаў краін СНД, перарасьмеркаваньне іх нацыянальных даходаў на карысьць Расеі.

Так, у чэрвені 1992 г. Расея ўвяла безнаяўны расейскі рубель, што стала пачаткам разьмежаваньня грашовых сыстэмаў Расеі ды краінаў СНД. Гэта можна лічыць пачаткам грашовай рэформы ў РФ. На гэтым выйграла ня толькі РФ як дзяржава. Немалыя грошы зрабілі з паветра фінансавыя дзялкі, якія за пэўную плату дапамагалі былым саюзным рэспублікам ажыцьцяўляць узаемныя плацяжы з Расеяй. У ліпені 1993 г. Расея ўвяла на сваёй тэрыторыі ў наяўнае грашовае абарачэньне новы расейскі рубель, што можна лічыць заканчэньнем грашовай рэформы.

Ад такіх дыскрымінацыйных акцыяў Цэнтрабанку Расеі, якія можна ахарактарызаваць як фінансавую агрэсію супраць краін СНД, Беларусь, як і іншыя сябры СНД, пачала страчваць свае матэр'яльныя здабыткі, свой адносны дабрабыт. Страты можна нават параўнаць са спустошальнай вайной, калі ацаніць, колькі было скуплена за бясцэнак і вывезена зь Беларусі харчовых і нехарчовых тавараў, матэр'яльных каштоўнасьцяў за пэрыяд адсутнасьці самастойнай грашова-крэдытовай палітыкі, скіраванай на ахову эканамічных інтарэсаў Беларусі. Фінансавая вайна Расеі супраць Беларусі трывае й цяпер. Яна выяўляе сябе праз патрабаваньне Расеі пакінуць у грашовым абарачэньні на тэрыторыі Беларусі расейскія рублі нароўні зь беларускімі рублямі да гэтак званага аб'яднання грашовых сыстэмаў. Каб пераканацца, што гэтая акцыя сапраўды па эфэкце роўная ваенным спусташэньням, разгледзім просты прыклад.

На тэрыторыі Беларусі разьмешчаныя 30 тысяч расейскіх вайскоўцаў. Страчвае або набывае пры такіх варунках нашая дзяржава ад наяўнасьці ў абарачэньні аднасова беларускіх і расейскіх рублёў? Падлічыце: лейтэнант расейскае арміі атрымлівае 250 тысяч расейскіх рублёў, што ў пераліку на нашыя «зайцы» перавышае мільён. А наш лейтэнант атрымлівае 150 тысяч рублёў. Як гэта псыхалягічна ўзьдзейнічае на афіцэраў ды салдатаў беларускага войска, тлумачыць ня трэба. Гэта папраўдзе разбурае беларускае войска. Наш урад часта спасылаецца на тое, што не хапае грошай на закупку ў Расеі энэрганосьбітаў ды сыравіны. Дык чаму ж тады Кебіч адмаўляецца ад расейскіх грошай, якія Расія мусіць абавязкова выплочваць праз нашую банкаўскую сыстэму на ўтрыманьне свайго войска, разьмешчанага на Беларусі?

Забараніўшы абарачэньне на тэрыторыі Беларусі грошай іншых дзяржаваў, што, дарэчы, даўно зрабілі нашыя суседзі ў Балтыі, праз рэформу структуры цэнаў можна ня толькі паставіць беларускага і расейскага афіцэра ў аднолькавыя матэр'яльныя ўмовы, але і зрабіць сёньняшні стан рэчаў адваротным. Некаторыя краіны толькі і жывуць з таго, што дазваляюць разьмяшчаць на сваёй тэрыторыі замежныя войскі. Беларусь з гэтага мае толькі выдаткі. Трэба дадаць, што Беларусь яшчэ мае вялікія страты ад знаходжаньня на беларускай тэрыторыі расейскае арміі і праз сацыяльную сфэру. Ці ж можна гаварыць пра баяздольнасьць беларускага войска, калі наш міністр абароны атрымлівае ў чатыры разы меней за расейскага лейтэнанта?.. Я прыхільнік таго, каб вайскоўцы дружалюбных армія ў (а толькі так я разглядаю беларускую і расейскую арміі) знаходзіліся ў роўных матэр'яльных умовах. Гэта гарантыя міру, спакою, ваеннага супрацоўніцтва на карысьць абедзьвюх дзяржаваў.

Відавочна, што вялікія эканамічныя і маральныя страты Беларусь панесла ад гвалтоўнага, нецывілізаванага разьяднаньня грашовай сыстэмы былога СССР. Што дасьць ёй аб'яднаньне сёньняшніх грашовых сыстэмаў? Немалыя грошы на гэтым мяркуюць зарабіць уладальнікі цьвёрдай валюты. Пэратварыўшы, напрыклад, адну тысячу даляраў праз канвэртацыю ў безнаяўныя шэсьць мільёнаў «зайцоў», пасьля аб'яднаньня грашовых сыстэмаў былыя ўладальнікі валюты атрымаюць шэсьць мільёнаў расейскіх рублёў, якія можна будзе канвэртаваць ужо ў мінімум чатыры тысячы даляраў. Чысты прыбытак ад нескладанай апэрацыі з адной тысячай даляраў складзе тры тысячы.

А калі запусьціць у справу мільёны?.. Дарэчы, некаторыя так і зробяць. Магчыма, гэта будуць тыя самыя людзі, якія ўжо добра зарабілі на гвалтоўным разьяднаньні грашовых сыстэмаў краін СНД, а зараз зьбіраюцца добра зарабіць яшчэ й на аб'яднанні. І ці ня гэтыя бізнэсмэны вызначаюць паводзіны нашага ўрада?

Расейскі ўрад праводзіць жорсткую манэтарысцкую фінансавую палітыку, скіраваную ў першую чаргу на скарачэньне грашовай масы ў абарачэньні. Можна лічыць, што менавіта вынікам гэтай палітыкі стала выштурхоўваньне краін СНД з рублёвай зоны новага і старога тыпу ў прамым і пераносным сэнсе. Жорсткая манэтарысцкая палітыка Расеі, безумоўна, павінна станоўча паўплываць на фармаваньне гаспадарчай кан'юнктуры Расеі, але ў той жа час яна разбуральна ўзьдзейнічае на эканамічную сытуацыю ў іншых краінах СНД. Паколькі рэформы ў Расеі ідуць апераджальнымі тэмпамі і без узгаднення з краінамі-партнэрамі па СНД, то той, хто першы зробіць эканамічны ўдар, вязе і выйграе. Здаецца, гэты прынцып закладзены ў аснову палітыкі Расеі ў дачыненьні да краін СНД. Тут трэба адзначыць слабую ролю каардынуючых органаў СНД па ўстанаўленьні раўнапраўных адносін паміж краінамі-партнэрамі.

Як сьведчаць апошнія падзеі, беларускі ўрад робіць усё магчымае і немагчымае, каб увайсьці ў грашовую сыстэму Расеі і такім чынам атрымаць расейскія грошы. Ня буду кранаць палітычных аспэктаў дзейньняў беларускага ўрада (яны проста абразьлівыя для беларускай дзяржавы), спынюся толькі на эканамічных. А яны даволі парадаксальныя. Пры штомесячнай інфляцыі 30-35% у Расеі і, адпаведна, далейшым абясцэньваньні расейскага рубля, жорсткая манэтарысцкая фінансавая стратэгія расейскага ўрада ніяк не стыкуецца з ілюзіямі беларускага ўрада на пастаўку ў Беларусь значных сумаў расейскіх грошай. Парадокс заключаецца ў тым, што чым болей расейская эканоміка будзе патрабаваць дэвальваваных рублёў, тым больш іх трэба будзе «выкасоўваць» з грашовага абарачэньня. Такім чынам, можна сьцьвярджаць, што калі новы ўрад Расеі будзе працягваць курс жорсткага манэтарызму, што найбольш верагодна, то Беларусь за проста так не атрымае расейскіх грошай. Гэта адзін бок праблемы. З другога боку, Расея зацікаўленая, каб расейскі рубель абарачаўся на тэрыторыі краін СНД у якасьці ключавой (рэзэрвовай) валюты. Гэта дае Расеі значныя палітычныя і эканамічныя перавагі. Напрыклад, за кошт дадатковай эмісіі Расея зможа аплочваць дэфіцыты нацыянальнага плацёжнага балянсу і свае закупы ў краінах СНД, крэдытаваць бюджэтныя расходы за кошт зьнешніх крыніцаў.

Зыходзячы з усяго сказанага вышэй наш Вярхоўны Савет павінен быў даўно запісаць першым пунктам у Асноўных накірунках грашова-крэдытовай палітыкі Рэспублікі Беларусь на 1994 год наступнае: «Прызнаць беларускі рубель (у наяўным абароце — разьліковы білет Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь) адзіным плацёжным сродкам на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у якасьці нацыянальнай валюты на пераходны пэрыяд, якая эмітуецца Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь». Бяз гэтага ніякая праграма ўрада ня выведзе Беларусь з крызысу.

Часта можна пачуць, што Украіна выйшла з рублёвай зоны, увяла свае пераходныя грошы, а эканамічная сытуацыя там яшчэ горшая, чым на Беларусі. Тут трэба адзначыць, што ў адрозьненьне ад Расеі, дзе праводзіцца пасьлядоўная манэтарысцкая палітыка і скарачэньне дзяржаўных расходаў на сацыяльныя праграмы, на Украіне праводзілася ярка выражаная сацыяльна арыентаваная палітыка. Вярхоўным Саветам Украіны было прынята шмат заканадаўчых актаў, накіраваных на сацыяльную падтрымку грамадзян. Вялікія сацыяльныя гарантыі не былі падмацаваныя матэр'яльна і мелі пераважна разьмеркавальны, папулісцкі характар. Павялічваючы выдаткі на сацыяльную абарону людзей, у тым ліку на дапамогу асобам, што пацярпелі ад Чарнобыльскай катастрофы, на Украіне мала зьвярталі ўвагі на спад вытворчасьці.

Калі выбіраць беларускі шлях выйсьця з крызысу, то трэба, безумоўна, зрабіць высновы з досьведу Расеі ды Украіны. Апошнія выбары ў Расеі паказалі, што жорсткі манэтарызм недаспадобы большай частцы насельніцтва. Наш шлях павінен пралегчы праз станаўленьне і ўмацаваньне ўласнай грашова-крэдытовай сыстэмы ды праз эканамічную інтэграцыю ў межах СНД — валютны саюз і стварэньне агульнага рынку. Нацыянальная валюта — гэта не ізаляцыянізм, гэта найважны інструмэнт дзеля абароны эканамічных інтарэсаў дзяржавы.



## Па візу — у Варшаву

За час існаваньня Савецкага Саюза мы ўсе прывыклі, што пры неабходнасьці выезду за мяжу дакумэнты трэба афармляць праз Маскву. Натуральна, што ў былой імпэрыі практычна ўсе замежныя прадстаўніцтвы месьціліся «в столице нашей Родины». Менску тады дазволілі мець толькі консуляты ГДР, Польшчы ды Балгарыі.

Пасьля распаду СССР сытуацыя трохі палепшылася. У сталіцы Беларусі пачалі зьяўляцца амбасады найбуйнейшых краінаў сьвету. Але нашым грамадзянам, якія зьбіраюцца наведаць замежныя краіны, гэта не прынесла вялікае палёгкі. Рэч у тым, што практычна ніводная заходняя амбасада ў Менску (за выняткам нямецкай) не займаецца консульскімі паслугамі. Прычынаў тут некалькі, але найважнейшая, мусіць, у тым, што беларускі ўрад не сьпяшаецца стварыць неабходныя ўмовы для працы іншаземных дыпляматаў. Амбасады Італіі, Францыі, Кітая ды Японіі, напрыклад, усё яшчэ туляцца ў пакоях гатэляў «Беларусь» і «Кастрычніцкая».

Тым часам нашыя суайчыньнікі вымушаныя месяцамі чакаць, пакуль у перагружаных замежных амбасадах у Маскве ім афармяць візу ў Вялікабрытанію або Бэльгію. Якое ж тут можа быць выйсьце? Яго можна знайсьці, калі глядзець ня толькі на ўсход, а азірнуцца наўкол. Дыпляматычныя прадстаўніцтвы шмат якіх краінаў ёсьць у Вільні, Кіеве і, урэшце, у Варшаве, да якой жыхарам Беларусі (асабліва яе заходніх рэгіёнаў) дабрацца значна лягчэй, чым да Масквы.

Вось прыклад з рэальнага жыцьця. Адзін мой знаёмы-філёляг зьбіраўся ў Англію на стажыроўку. Запрашэньне яму прыйшло позна, і, вядома, ён ня мог чакаць цэлы месяц афармленьня візы ў Маскве. Ён зьвязаўся з брытанскім паслом у Менску, і той параіў яму зьездзіць у Варшаву, дзе, паводле яго словаў, візу можна атрымаць за адзін дзень.

Мой прыяцель так і зрабіў. Па прыезьдзе ў Варшаву ён скіраваўся ў сэкцыю візаў Брытанскай амбасады, што месьціцца недалёка ад Цэнтральнага вакзала на вуліцы Эміліі Плятэр, 28. Сустрэлі яго там вельмі гасьцінна, нават папрасілі прабачэньня, што ня могуць зь ім размаўляць па-беларуску. За дваццаць хвілін ён запоўніў анкету і адразу ж атрымаў візу. Да таго ж, як са «студэнта», ніякай платы зь яго не спаганялі, а па зьвестках, атрыманых ім у МЗС Рэспублікі Беларусь, такая паслуга ў Маскве каштуе 45.000 расейскіх рублёў. Пры разьвітаньні яму яшчэ й падзякавалі, што ён зьвярнуўся менавіта да іх.

Простасьць атрыманьня візы ў Варшаве тлумачыцца тым, што ў шмат якіх краінаў з Польшчай існуе бязвізавы рэжым, і замежныя прадстаўніцтвы ў сталіцы нашай заходняе суседкі ня надта перагружаныя працай. Так што, дарагія суайчыньнікі, у нас ёсьць выбар: або атрымліваць візу ў Расеі (але за месяц-паўтара), або ў Варшаве — усяго за адзін дзень.

**Вінцук ШОСТКА**

## «Потрепыхается и вернется обратно»

Расейскія палітыкі пра Беларусь

Імпэрскі сьветапогляд, стаўленьне да суседніх народаў як да «братоў меншых», над якімі трэба ўсталёўваць апякунства, і настальгія па Расеі, што займала 1/6 частку зямлі, так моцна засела ў мазгох значнай колькасьці расейцаў, што гэта ўжо, як кажуць, назаўсёды. Прычым падобныя настроі пануюць ня толькі сярод людзей, якія, напрыклад, аддалі галасы на выбарах за Уладзімера Жырыноўскага, але і сярод значнай часткі расейскіх эканамістаў ды палітыкаў. Навядзём толькі два прыклады з расейскай прэсы.

Новы расейскі часопіс «Обозреватель», першы нумар якога выйшаў у лістападзе, друкуе вельмі цікавы артыкул, анансаваны наступным чынам: «Известный экономист Николай Шмелёв о неизбежности восстановления Союза». У гэтым артыкуле «известный экономист» спачатку смуткуе з тае нагоды, што «Россия осталась одна. Страны, в которой мы прожили жизнь, больше не существует. Не верю. Не верю в её окончательный распад». А далей — болей. «Все эти республики «ближнего зарубежья»,, — канстатуе М.Шмялёў, — нежизнеспособны. Никуда они не денутся — потрепыхаются и вернутся обратно. Не могут руки или ноги жить отдельно от туловища. То, что для России трагедия, для них — смерть». Тут жа даюцца і канкрэтныя рэцэпты вяртаньня рук і ног да тулава: калі яны ня хочуць стварыць цесны эканамічны саюз — гэта значыць «создавать единую денежную систему, проводить единую таможенную политику...», — то перапыніць ім пастаўкі газу, нафты і нафтапрадуктаў. Во як! Перакрыць нафтавы кранік — і тады яны ўсьвядомяць «неизбежность восстановления Союза».

А вось другі прыклад. Прычым тут у полі нашае ўвагі зьяўляецца больш вядомая фігура — Анатоль Сабчак, старшыня Расейскага руху дэмакратычных рэформаў (РРДР). Чытаем ягонае інтэрвію газэце «Россия» (за 15—21 сьнежня 1993 г.) І тут анонс на першай старонцы б'е ў вочы: «Анатолий Собчак: РФ будет прирастать странами СНГ». Чытаем у тэксьце: «Я считаю, что сегодня Россия не может ставить вопрос о пересмотре границ, ибо это неизбежно приведёт к войне. В интересах России сегодня обеспечить нормальное развитие в пределах границ РСФСР. Но я не исключаю, что многие российские территории, переданные Украине, Казахстану, Беларуси, со временем вернутся в Россию».

Адчуваеце, як усё проста, — як толькі ў інтарэсах Расіі будзе забесьпячэньне «нармальнага разьвіцьця» ня толькі ў межах РСФСР, от тады й пачнецца...

Я навёў толькі два прыклады, якія не вышукваў спэцыяльна, а знайшоў у газэтах і часопісах, набытых падчас аднадзённай паездкі ў Маскву. Выпадковасьць? Магчыма. Але чамусьці ня верыцца мне ў гэткія выпадковасьці ў краіне, дзе каля 20 мільёнаў чалавек галасуюць за «сокалаў», якія абяцаюць вывесьці Расею да Індыйскага акіяну, а суседнія дзяржавы зрабіць расейскімі губэрнямі.

**Віктар ДЗЯТЛІКОВІЧ**

ПОШТА

## Што мы за людзі такія?!

Мне балюча глядзець на тое, як Беларусь страчвае сваю незалежнасьць. Што мы за людзі такія?! Дзе яшчэ такое магчыма: краіна, дзе 80% складае карэннае насельніцтва, ніяк ня можа вызначыцца зь дзяржаўнаю моваю і іншымі само сабой зразумелымі пытаньнямі.

Можа рэч не ў палітыках, якія сёньня кіруюць, а ў нас саміх? Можа ў нас у крыві ёсьць нейкая цяга да залежнасьці ад каго б там ні было: палякаў, расейцаў... Калі браць нашу гісторыю, то на працягу апошніх стагоддзяў намі, як тымі баранамі кіравалі чужынцы, і за гэты час я не бачу ніводнага сур'ёзнага выступленьня народа менавіта за Беларусь і беларусаў.

Таму так імкліва падае павага да беларусаў як нацыі, хоць, зрэшты, сапраўднай павагі, відаць, ніколі і не было. А наш улюбёны ўрад нас усё палохае эканамічнымі праблемамі (якія сам жа і стварае). Ніколі і нідзе эканоміка і палітыка не былі на вышыні без вырашэньня нацыянальнай праблемы.

Я вырас на чужыне (у Казахстане), на Беларусь вярнуўся нядаўна. Але і той, хто пражыў тут усё жыцьцё, наўрад ці можа сказаць, хто такі беларус у душы: ці ён батрак-бальбес, ці гэтая нацыя такая хітрая, што ідзе на аб'яднаньне (грошы і інш.) з Расеяй. Няўжо Кебіч і ягоны кабінет думаюць, што яны хітрэйшыя за расейскіх палітыкаў. Пра каго ён дбае? Пра мяне?

Дзякуй, але такім чынам ня трэба. У народзе ён ня мае падтрымкі.

Патрэбныя новыя выбары. І ў гэтым вялікую ролю павінны адыграць газэты.

Я не нацыяналіст, проста я беларус і хачу жыць на Беларусі (а не Беларускай губерні), гаварыць на мове продкаў і быць упэўненым, што заўтра ня прыйдуць і ня скажуць: вучы нашу мову, жыві так, як мы, і забудзь хто ты ёсьць. Так было на гэтай зямлі ўжо некалькі разоў.

Ваш падпісчык
**М.ЛІТВІНОВІЧ**
г.Жыткавічы

Сёньня

Сяргей ДУБАВЕЦ

## ІМІТАЦЫЯ НАДЗЕІ

Беларусь — усё яшчэ млявае палітычнае цела з паніжанай тэмпэратурай. Доктар назваў бы гэта ўпадкам сілаў. 35,5. Грамадзкая сьвядомасьць ня мае структуры, яна не падзеленая, яна толькі квола рэагуе на вонкавыя раздражняльнікі. Чаму? Таму што на Беларусі няма суб'ектаў палітыкі. Хіба што стоікі-цьвярдзі ды «Белая Русь», якая атрымлівае сёньня віншаваньні й вялізную гістарычную фору ў сувязі зь перамогай Жырыноўскага ў Расеі. Астатнія пакуль толькі адбрэхваюцца або «шукаюць кампрамісы». Але ня можа быць кампрамісаў, калі няма падставовых прынцыпаў.

Пазіраючы на суседнія рэспублікі-краіны, Беларусь толькі робіць выгляд, што ў яе таксама — незалежнасьць, дзяржаўная мова, армія, а таксама — прыватызацыя з ваўчарамі і крызыс з энэргарэсурсамі. Але гэта толькі выгляд. Бо за апошнія часы ў беларускай палітыцы так і не адбылося нічога беларускага.

Ніхто ня выявіў палітычную волю. Ніхто ня ўзяў на сябе ўсю адказнасьць за лёс краіны. Ніхто не пайшоў на прынцып.

Сёньня на Беларусі робяць выгляд, што ў нас таксама ёсьць надзея — надзея на новыя выбары. Гэта гучыць невыносна: робім выгляд, што маем надзею, што жывем, што мы ёсьць. А ёсьць толькі імітацыя: візыт прэзыдэнта ЗША, Пагоня на варотах в/ч ды беларуская мова па радыё. Рэальнай надзеі няма. Бо ніхто толкам ня ведае прадмету надзеі, ніхто толкам ня скажа, чаго нам трэба — хоць ты памры. Каб не было вайны?..

Самастойная дзяржаўнасьць Беларусі ня стала абсалютным прынцыпам ніводнай палітычнай сілы, адпраўным пунктам для парляманцкай большасьці, палітычнай асновай існаваньня краіны. Ня стала — і нішто не абяцае, што стане пасьля новых выбараў. Хутчэй наадварот. У новых «независимых дэпутатов» будзе яшчэ менш падставаў імітаваць парлямант незалежнай краіны, чым у гэтых, сёньняшніх, для якіх яшчэ нешта значыць «единообразие в ряду» рэспублік-сясьцёр. Падобна, што новыя выбары (калі да іх дойдзе) стануць пікам гэтай невыноснай імітацыі і адзіным, хоць і тупіковым, выйсьцем паласца ўваход у РФ...

Для незалежнай дзяржавы кампрамісаў ня можа быць прынамсі па такіх пытаньнях: неўступленьне ў постсавецкія саюзы, дзяржаўная мова, сваё войска (не пераробленае, а іншае). Далей можна дыскутаваць — якая геапалітыка і канстытуцыя. Зразумела, што прынцыповыя незалежнікі рызыкавалі б сёньня апынуцца ў рэальнай апазыцыі. Але акрамя іх ніхто ня дасьць гэтаму народу сваю надзею.

Было б дзіўна ў парляментах Польшчы ці Латвіі пачуць дыскусію пра незалежнасьць. Яшчэ больш дзіўны быў бы ўдзел у гэтых дэбатах незалежніцкіх сілаў. Ёсьць рэчы, якія не дыскутуюцца. Інакш усё астатняе траціць сэнс. Беларусь — асаблівы выпадак? Паўгадовае двоеўладзьдзе ў Летуве ў 1991 г. паказвае, што — не асаблівы. І што прынцыпы абласьніцтва й незалежнасьці могуць займаць толькі розныя бакі барыкадаў. Спадзявацца, што з абласьніцтва мірна вырасьце незалежнасьць, можна было і пры П.Машэраве — па сутнасьці нічога не зьмянілася...

Тады ў Летуве шмат хто ня верыў, што з аматарскіх паляўнічых атрадаў вырасьце сёньняшняя армія, а з кучкі музыколягаў — сапраўдны парлямант. Ня верылі, але насуперак савецкім танкам ішлі, бо ведалі, што танкі не дадуць надзеі. Калі б, скажам, якое-небудзь БЗВ фігуральна ці нават рэальна «пайшло ў лес», яму маглі б не паверыць, але, прынамсі, ведалі б, на чыім баку зло.

Я кажу «сьмешныя» рэчы, але гісторыя краіны часта бывае «сьмешная». Заўсёды сур'ёзная толькі імітацыя гэтай гісторыі.

За час кампрамісаў высакароднасьць і абсалютная адназначнасьць самое мэты — незалежнасьці (якая стала прагучала б нават дзе-небудзь у Разанскай вобласьці) — на Беларусі загавораная, яна стала пустым гукам. І сёньня, каб сказаць: незалежнасьць — вышэй за ўсё! — трэба ўжо падбіраць іншыя, новыя словы. Магчыма, гэтыя словы і скажа ўжо нехта новы.

Альбо ніхто.









Зьбігнеў СЬВЕНХ

# Закляцьце Казімера Ягайлавіча

*У канцы мінулага году віленская польскамоўная газэта «Kurjer wileński» пачала публікаваць новую кнігу польскага пісьменьніка і дакумэнталіста Зьбігнева Сьвенха «Закляцьце Казімера Ягайлавіча», што ўяўляе II том вялікай працы «Закляцьці, мікробы і навукоўцы».*

*У Польшчы выйшла ўжо чатыры выданьні I тома, а зацікаўленьне кнігаю даўно перасягнула межы краіны.*

*Незвычайная гісторыя «закляцьця» караля і вялікага князя Казімера IV, што бярэ свой пачатак з ускрыцьця дамавіны гэтага манарха ў Вавэлі* ў 1973, ня можа пакінуць абыякавым чалавека, які цікавіцца беларускай мінуўшчынай. Аўтар выпрацаваў уласны мэтад папулярызацыі гісторыі, апавядаючы пра новыя адкрыцьці і зьдзіўляючы чытача загадкамі. Нездарма ў 1987 годзе З.Сьвенх быў прыняты ў The Explorers Club — «Клюб Адкрывальнікаў» (Нью-Ёрк), сябрамі якога зьяўляюцца сусьветна вядомыя дасьледчыкі. Апроч таго, ён уладальнік цэлага шэрагу літаратурных і музэальных узнагародаў.*

*Дакумэнтальная аповесьць пра закляцьце Казімера Ягайлавіча амаль адразу дала жыцьцё новай легендзе. Цяпер тысячы турыстаў пачынаюць сваю экскурсію па Вавэлі з агляду дамавіны Казімера Ягайлавіча.*

*Падзеі твора ахопліваюць час з канца XV да 30-х гадоў XX ст. Сам аўтар так гаворыць пра сваю кнігу: «Я дабраўся да шмат якіх незвычайных дакумэнтаў. Зь іх вынікае як гістарычная, так і сучасная повязь між Вільняю і Кракавам. Повязь, сатканая з фактаў, гіпотэзаў, неверагодных зьбегаў акалічнасьцяў і аналёгій. Мяркую, што ўражлівы і захоплены раскрыцьцём таямніцаў чытач прачытае маю кнігу зь цікавасьцю...»*

*Паводле «Kurjera Wileńskiego». Друкуецца скарочана.*

Разьдзел I

## «Violator operis infelix esto» — закляцьце Ягелонаў?

**Пераносам парэштак сьвятога Казімера закляцьце парушанае ўпершыню ● Вечным спачынам біскупа Бэнэдыкта Войны пачалася чорная чарада наступстваў ● Біскуп Яўстах Валовіч перад нечаканай сьмерцю пасьпеў усклікнуць: «Божа, будзь міласьцівы да мяне, грэшнага» ● На лёсе каралевы Канстанцыі зьдзейсьніў закляцьце сонечны ўдар. ● З Жыгімонтам III Вазам раптам здарыўся паралюш, ён памёр — і яго разам з Канстанцыяй пахавалі ў той самы дзень у Вавэлі ● Падчас паморку пакінула гэты сьвет каралева Цэцылія Рэната ● Заўчасная сьмерць напаткала караля Уладзіслава і біскупа Абрама Войну ● Пад Вільняю забіты сякерай мастак Пётра Данкерс.**

Violator (hujus) operis infelix esto (Разбуральнік (гэтага) твору, няшчасны, пракляты будзь!) Гэта — надпіс на ўнутранай сьцяне былой Каралеўскай капліцы ў віленскай катэдры. На жаль, закляцьце, якое спраўджвалася стагодзьдзямі, да гэтага часу чакала свайго летапісца. Пасьля пабудовы каля 1470 года ў вавэльскай катэдры Капліцы Сьвятога Крыжа — гэтага першага маўзалея манархаў Кароны і Літвы — кароль і вялікі князь Казімер Ягайлавіч у 1474 годзе збудаваў у віленскай катэдры тую самую Каралеўскую капліцу. У той час ён ня мог прадбачыць, што роўна праз 10 гадоў пахавае тут свайго маладога сына Казімера, якога пазьней, у 1602 годзе, далучаць да ліку сьвятых і зробяць патронам Літвы. У 1506 годзе знайшоў тут апошні прыстанак яшчэ адзін ягоны сын — кароль Аляксандар, а пасьля адна за адною і жонкі ягонага ўнука Жыгімонта Аўгуста — Эльжбета (†1545) і Барбара Радзівіл (†1551).

Хто і калі зрабіў гэты надпіс-закляцьце — перасьцярогу для тых, хто захоча, нягледзячы ні на што, парушыць спакой памёрлых? Што гэта? Праява волі караля Казімера Ягайлавіча або ягонага сына Аляксандра? А можа, падобныя закляцьці набылі сілу яшчэ ў мітычныя часы, калі людзі верылі ў магію і чары, і бяруць свой пачатак з паганскіх звычаяў старажытнай Літвы? Нагадаю: яшчэ нядаўна ў Вавэлі сёйтой казаў, што бачыў лацінічны дакумэнт, які перасьцерагаў не адчыняць дамавіны Бацькі каралёў — Казімера IV, — і што сьмерць 16 чалавек зь ліку дасьледчыкаў і кансэрватараў можна зьвязваць з уваходжаньнем у 1973 годзе ў склеп гэтага вавэльскага ўладара.

Недзе ў сярэдзіне 80-х гадоў да мяне завітала сп. Марыя Блашкевіч, маці буйной дасьледчыцы Гімалаяў Ванды Руткевіч. (Было гэта адразу пасьля таго, як у прэсе зьявіліся асобныя разьдзелы I тома кнігі пра закляцьці, мікробы і навукоўцаў). Яна распавяла пра адну вучоную з Коўна, якая ў жніўні 1939 года друкавала ў Вільні па-летувіску працу пра закляцьце Ягелонаў. Пасьля прыходу немцаў друкарскі набор гэтае кнігі быў зьнішчаны. Падчас шматразовых наведваньняў Вільні (у 1988—1993 гадах) я шукаў сьляды рукапісу, машынапісу ці асобнага карэктарскага адбітку працы. Марна.

Паводле словаў летувіскіх навукоўцаў, хутчэй за ўсё гэта была праца эгіптоляга доктара Арцімавічэне з Коўна, якая займалася таксама гісторыяй старажытнай Літвы і Вялікага княства. Ня будзем траціць надзеі, можа, калі-небудзь удасца знайсьці гэтую публікацыю. Магчыма, у ёй схаваны ключ да Вялікай Загадкі, што хвалюе нас з часу адчыненьня дамавіны Казімера і неверагодных здарэньняў наступных гадоў.

У першым томе (у разьдзеле «Рукі каралёў сягаюць далёка») я ўзгадаў пра Зыгмунта Яворскага, які да вайны быў выкладчыкам Віленскага унівэрсытэта, а пасьля прафэсарам Сельскагаспадарчай Акадэміі ў Кракаве. Ён шмат апавядаў сваім студэнтам пра «Закляцьці», якія ўладары гістарычных земляў Вялікай Літвы накладалі на людзей, што парушалі іх вечны сон у курганох; пра выпадкі таямнічай і раптоўнай сьмерці навукоўцаў. Гэта ўсё, натуральна, асацыюецца з розгаласам у сусьветнай прэсе, што пачаўся ў 1922 годзе, калі была адчыненая труна фараона Тутанхамона з Эгіпецкай Даліны фараонаў. Тады малады нашчадак уладароў Эгіпту з васемнаццатай дынастыі сабраў плён закляцьця, што выявіла сябе ажно ў 20—30-я гг. нашага стагодзьдзя.

Тым часам у Вільні адбываліся неверагодныя падзеі. Чорная легенда мяжы XVIII—XIX ст. (часу папярэдняй рэстаўрацыі катэдры), атрымала новае жыцьцё пасьля паводкі 1931 года, калі Вяльля заліла падзямельлі катэдры і праз гэта выпадкова былі знойдзеныя парэшткі каралеўскага цела, сьлед якіх згубіўся ў сярэдзіне XVII ст. Пасьля гэтага закляцьце ізноў нагадала пра сябе...

У 1933 годзе вядомы польскі публіцыст і рэпарцёр Ксавэры Прушынскі на старонках віленскага «Слова» задаў драматычнае пытаньне кансэрватарам падзямельля катэдры — тым самым навукоўцам, якія толькі што дасталі парэшткі Аляксандра Казімеравіча:

— Ці гэта праўда — што гавораць, пра што пляткараць?.. Ці праўда, што людзі, хто датыкнуўся да муроў катэдры, не памерлі сваёй сьмерцю?

*

Але вернемся да асноўнага пытаньня: калі найпазьней мог узьнікнуць згаданы надпіс — перасьцярога на фасадзе старой Каралеўскай капліцы, якую сёньня называюць Валовічаўскай Бязгрэшнага Зачацьця, або Найсьвяцейшай Панны Марыі? Экспэрты адказваюць: у першай чвэрці XVI стагодзьдзя. Гэта значыць тады, калі ў склепе пад капліцаю ўжо знаходзіліся дамавіны каралевіча Казімера і ягонага брата — караля і вялікага князя Аляксандра. Гэта можа азначаць, што сучасьнікам было добра вядомае закляцьце Ягелонаў, высечанае ў каменным надпісе на сьцяне.

Гэта — тэма вялікага апавяданьня, якое мы і пачынаем.

«ПАВІНЕН БЫЎ АЛЬБО ЗУСІМ НЕ НАРАДЗІЦЦА, АЛЬБО СТАЦЬ ВЕЧНЫМ», — напісаў пра яго Калімах. У адным з гданьскіх летапісаў запісаныя такія залатыя словы: «Быў ён разумны ды трымаўся звычаяў, і роўна два гады панаваў ад часу, калі яго кароль і гаспадар дапусьціў да пасаду, а ўся дзяржава і ўвесь народ славілі яго». Гаворка, несумненна, пра каралевіча Казімера, пра маладзёна паважнага і багабойнага, які першы з каралеўскага роду быў пахаваны ў склепе Каралеўскай Капліцы. Ледзь мінула некалькі дзён пасьля пахаваньня, а ўжо мальборгскі ваявода Бажыньскі шаноўна ўзгадваў яго ў лісьце да гданьцаў і раіў маліцца за ягоную душу — душу ўладара Прусіі, маліцца на працяту ўсяго года.

Ужо ў 1475 годзе яго вялікі бацька, Казімер IV, бачыў у гэтым юнаку, якога пасьля каталіцкі касьцёл назаве сьвятым, спадкаемцу трона, запрашаў яго на паседжаньні рады каралеўства. Другі сын манарха, ён нарадзіўся ў Кракаве 3 кастрычніка 1458 года, гадаваўся ў Вавэлі сярод усіх 13 дзяцей Казімера Ягайлавіча і Эльжбеты Ракушанкі (Элізабэты Аўстрыйскай). З 8-мі гадоў ён разам з братам выхоўваўся пад апекаю гісторыка Яна Длугаша**, каралеўскага ахмістра, рыцара Станіслава Шыдлавецкага, вучыў яго і Калімах. Казімер-малодшы валодаў лацінай і атрымаў добрую гуманітарную адукацыю.

У 1471 годзе, калі Казімеру было трынаццаць гадоў, бацька паслаў яго на чале 12-тысячнага наёмнага войска (пад непасрэдным кіраўніцтвам Пётры Дуніна) у Вугоршчыну, дзе несымпатыкі караля Мацея Корвіна меліся пасадзіць маладога прынца на трон. Казімер тытуляваўся ў дакумэнтах як «regni Hungariae naturalis heres», з пункту погляду дзяржаўных інтарэсаў гэта была спроба сьцьвердзіць спадчынныя правы Ягелонаў на карону сьв. Стафана. Паход скончыўся няўдачаю і пакінуў глыбокі сьлед у псыхіцы ўражлівага хлопца. Зьведаў ён ня толькі горыч паразы, але таксама сутыкнуўся з жорсткай рэчаіснасьцю, стаў сьведкам гвалту і выбрыкаў рыцараў. Пасьля вяртаньня ў Польшчу бацька параіў яму застацца на нейкі час у Добчыцах пад Кракавам. Длугаш, які ў той час яшчэ апекаваўся ім, называе яго «маладзёнам шляхетным, рэдкіх здольнасьцяў...» Вэнэцыянскі пасол і вядомы ў тыя часы палітык Амброзьё Кантарыні ў 1473 годзе спаткаўся з чатырма сынамі караля Казімера ў Люблінскім замку і расказваў ва ўспамінах пра асаблівае ўражаньне ад каралевіча Казімера, які прывітаў яго бліскучай прамоваю (а юнаму цыцэрону было тады 15 гадоў). Праз тры гады старэйшы Ягайлавіч забраў сына ў Прусію, дзе той паланіў сэрцы пруската магнацтва.

Часам будучы патрон Літвы суправаджаў бацьку ў падарожжах у Вільню. Пасьля таго, як у 1481 годзе была раскрытая змова супраць манарха і ягоных сыноў, кароль і вялікі князь застаўся ў Літве, дзе сурова расправіўся з тым, хто квапіўся на ягонае жыцьцё, а панаваньне ў Кароне пакінуў на 23-гадовага каралевіча Казімера, які знаходзіўся ў сваёй рэзыдэнцыі ў Радаме, маючы за дарадцу Калімаха. Панаваньне Казімера мела намесьніцкі характар, а сам ён тытуляваў сябе «secundogenitus Regis Poloniae». Цьвёрдаю рукою ён караў за разбой, бязладзьдзю процістаяў справядлівасьць. Каралевіч падтрымліваў добрыя стасункі з прускімі дзяржавамі, што былі незадаволеныя сыстэмаю кіраваньня караля-бацькі. Вялікую ўвагу надаваў ён гандлёвым зносінам па Вісьле, асабліва экспарту збожжа з Кароны. Такім чынам, двухгадовае панаваньне Казімера-малодшага пакінула добрыя згадкі. У сярэдзіне траўня 1483 года бацька выклікаў сына ў Вільню. Па сьведчаньні Мехавіты, доктара і летапісца, ужо тады каралевіч быў хворы на сухоты. За два гады да таго бацькі хацелі ажаніць яго з дачкою імпэратара Фрыдрыха III, але Казімер адмовіўся ад шлюбу, бо даў зарок цноты, тым больш што меў прадчуваньне хуткае сьмерці.

Малады каралевіч здабыў прыхільнасьць віленчукоў, бо бараніў бедных і раздаваў шчодрую міласьціну. Ён быў надзвычай набожны: паданьне гаворыць, што нават узімку каралевіч бегаў надосьвітку ў катэдру і стаяў на каленях перад яшчэ зачыненымі варотамі сьвятыні — замкавая варта ня раз бачыла яго там. Найбольш упадабаным мейсцам малітваў багабойнага каралевіча была... Каралеўская капліца, якая неўзабаве стала мейсцам яго апошняга прыстанку. Улюбёнаю малітвай будучага сьвятога быў гімн вялебнага Бэрнарда «Omni die». У 1604 годзе, калі была адчыненая дамавіна, у труне пад галавой каралевіча знайшлі напісаны на пэргамэнце тэкст гэтага гімна.

Напрыканцы 1483 года бацька прывёз любага сына ў Гародню, а сам паехаў на зьезд у Люблін. У хуткім часе з Гародні прыйшлі нядобрыя весткі пра цяжкі стан каралевіча. Казімер IV яшчэ пасьпеў 1 сакавіка забраць сьмяротна хворага сына ў Вільню. Каралевіч спачыў у Ніжнім замку 4 сакавіка 1484 года, і мы ўжо ведаем, дзе ён быў пахаваны. Як ні дзіўна, не захавалася ніякіх апісаньняў таго пахаваньня. Толькі доктар Уладзіслаў Загорскі згадвае, што сьв.Казімер быў пахаваны ў Каралеўскай капліцы зь вялікай урачыстасьцю і пры напльыве незьлічонае колькасьці людзей.

* Замак-рэзыдэнцыя польскіх каралёў у Кракаве — старажытнай сталіцы Польшчы.

** Ян Длугаш (1415—1480) — польскі гісторык і дыплямат, канонік кракаўскі і арцыбіскуп львоўскі, аўтар «Гісторыі Польшчы».

**Пераклад І.Урбановіч**

*Далей будзе.*

## У Эўропу — праз акно

Неверагодная гісторыя здарылася на беларуска-польскай мяжы ў Берасьці. Нашыя памежная і мытная службы ўмудрыліся не заўважыць у грузавым фургоне, які кіраваўся ў Польшчу, 22 віетнамцаў.

Ужо на польскай тэрыторыі мясцовая дарожная паліцыя спыніла грузавік з «жывым таварам» і засьведчыла факт незаконнага перасячэньня дзяржаўнай мяжы 22 грамадзянамі Віетнама.

Можна толькі здагадвацца, за якую такую ласку нашыя памежнікі «не заўважылі» нелегалаў.

**І.Б.**

## Пра што дымілі коміны

Нястача мазуту, перабоі з цэнтральным ацяпленьнем і страх застацца сярод зімы безь цяпла ў кватэрах прывялі да пажару ў вёсцы Амбросавічы Віцебскай вобласьці.

Некалькі сем'яў — жыхароў 12-кватэрнага дома — збудавалі тут уласныя печы. Не ўлічылі аднаго: ізаляцыя пляскатага даху складаецца з гудрону і рубэройду. 7 гадзін пажарныя змагаліся з агнём. Аднаўленьне 400 квадратных мэтраў даху абыдзецца жыхарам дома ў некалькі мільёнаў рублёў.

**Іван ВАЛІН,**
БелаПАН

## NAŠA NIVA №18

Калядны нумар віленскай беларускай газэты НАША НІВА прысьвечаны Менскай Опэры. Сабраўшыся пасярод ночы каля тэатра на Траецкай гары, аўтары ствараюць свае тэксты пра міжваенную Беларусь, пра сувязь архітэктуры з грамадзкай сьвядомасьцю і пра Язэпа Лангбарда. «...Опэрны тэатар варты таго, каб стаць сымбалем Менску», — робіць выснову гісторык Алег Дзярновіч. Па прыкладзе Чэхіі ды Славакіі стылістыка функцыяналізму можа і ў нас стаць сымбалем незалежнага існаваньня. Нездарма ж у сярэдзіне 1980-х менавіта тут нехта вывесіў бел-чырвона-белы сьцяг...

Ян Марыя Бэрнардоні праве́ў на Беларусі 13 гадоў жыцьця. Адзін савецкі паэт напісаў верш пра тое, як «за росьпіс Нясьвіжскага касьцёла люты князь Радзівіл выкалаў Бэрнардоні вочы». У гэтым нумары «НН» гісторык архітэктуры Валянцін Калнін сьцьвярджае, аднак, што гэта былі лепшыя гады ў жыцьці італійскага архітэктара.

«Што вы думаеце пра ўласную сьмерць?» — на такое пытаньне карэспандэнту «НН» адказалі менскія літаратары, мастакі, музыкі... А таксама — завочна — Мантэнь, Ванэгут, Моэм ды шмат іншых знакамітасьцяў.

У нумары таксама друкуюцца арыгінальныя вершы Л.Сільновай, І.Бабкова, Хв.Ніцкі і перакладныя — Петраркі і Веры Рыч, арыгінальная проза Б.Пятровіча і перакладная — Джэймса Джойса. А таксама — эсэ Чэслава Мілаша і Мэвы Марон, шмат рэцэнзій ды іншых матар'ялаў.

## Бізнэс пахне порахам

28 сьнежня за Скідалем на шашы Горадня—Менск адбыўся збройны напад на калёну з чатырох легкавікоў. Іх пераганялі з Польшчы супрацоўнікі адной менскай камэрцыйнай фірмы. Сямёра нападнікаў мелі тры машыны і расставілі іх наступным чынам: спачатку BMW, праз пяцьсот мэтраў «жыгулі», а яшчэ праз паўкілямэтра Peugeot, якім якраз і перагарадзілі дарогу.

Чатыры імпартаваныя машыны спыніліся, бо камэрсанты падумалі, што тут адбылася аварыя. Але ўрэшце яны сьцямілі, што да чаго. Адну машыну рэкеціры затрымалі адразу, яшчэ адну дагналі, прастрэліўшы кіроўцу зь пісталета нагу. А мелі яны таксама і аўтамат. Машыну забралі, але неўзабаве вярнулі. Як высьветлілася пазьней, яны думалі, што гэта расейцы гоняць легкавікі ў Расею, а таму ня стануць зьвяртацца ў міліцыю. Аднак ужо а палове шостай міліцыя перацяла дарогу і затрымала адну машыну з рэкецірамі. А ў Лідзкім раёне дагналі і другую, прычым прымянiўшы зброю. Рэкеціры ў Peugeot не схацелі спыніцца. Але й астатніх таксама затрымалі — у Лідзе. Апэрацыя заняла ў міліцыі менш за тры з паловаю гадзіны.

Усе нападнікі — моладзь ад 22 да 28 гадоў. Усе — лідчукі, усе працуюць у кааператывах. Зброі яны пасьпелі пазбыцца, але на кватэры аднаго зь іх былі знойдзеныя тры патроны да аўтамата Калашнікава.

**Ян КАЗІМІРЧЫК**

## Падводная залатая ліхаманка

### На дне акіянаў спачываюць сотні тысячаў караблёў, наладаваных срэбрам, золатам і каштоўнымі рэчамі

Пошукі скарбаў сёньня маюць той самы смак прыгодаў, што і даўней. Але зьмяніліся кошты і тэхнічныя магчымасьці. Сучаснае абсталяваньне для падводных пошукаў дазваляе дасягаць глыбіні 4560 м і выяўляць мэталёвыя прадметы пад пластамі мулу і пяску. Аднак шанцы на знаходкі маюць толькі багатыя. Пошук і ўзьняцьце вялікіх скарбаў патрабуе ўкладаньня некалькіх мільёнаў даляраў, што могуць сабе дазволіць нешматлікія спэцыялізаваныя фірмы.

Выдавала на тое, што ў васьмідзесятыя гады адкрылася дарога да падводнага Эльдарада. У 1985 г. Майкл Хэтчэр і Макс дэ Рам адшукалі галяндзкі гандлёвы карабель «De Geldwemalsen», які патануў у Кітайскім моры ў 1752 г., перавозячы 120 зьліткаў золата і 160 тыс. штук кітайскае блакітна-белае парцаляны. Пакупнік аднаго з сэрвізаў заплаціў на аўкцыёне 327 тыс. даляраў.

У тым самым годзе суполка Treasure Salvors славутага скарбашукальніка Мэла Фішэра знайшла пасьля шасьці гадоў падрыхтоўкі карабель «Atocha», а на ягоным борце — 1000 зьліткаў срэбра, сотні неадшліфаваных смарагдаў, залатыя талеркі, залатыя бруські і ружанцы коштам блізка 300 млн. даляраў. Аднак узбагачэньне прыватных фірмаў было парушынкай у воку ўрадаў, што вырашылі захаваць для сябе падводную залатую жылу. Партугальскія ўлады адклікалі ў 1983 г. згоду на ўзьняцьце ашчэпкаў карабля «Nuestra Señora De Las Mercedes», калі даведаліся, што ягоны груз ацэньваецца ў 200 млн. даляраў, і аднача́сова пачалі ўносіць папраўкі ў стары закон аб падводных знаходках, які надаваў правы на скарб таму, хто яго знаходзіў.

Амэрыканскі Кангрэс прыняў у 1987 г. закон аб падводных рэштках караблёў, які пакідае ўладам штатаў усе знаходкі ў 5-кіламэтровай прыбярэжнай паласе тэрытарыяльных водаў. Неакрэсьлены прававы статус скарбаў, што ляжаць у паласе астатніх 17 км тэрытарыяльных водаў, стаўся прадметам бясконцых судовых працэсаў паміж уладамі і шукальнікамі.

Мэл Фішэр і ягоная суполка ўклалі мільёны даляраў у пошукі рэштак карабля «Atocha». Калі ўлады штата Флорыда даведаліся, што кошт скарбу ацэньваецца ў 300 млн. даляраў, яны прызналі скарб «падводнымі рэсурсамі, што належаць да культурнай спадчыны» і пакінулі правы на яго за сабой. Толькі пасьля 100 пасяджэньняў фэдэральнага суда і трох апэляцыяў Найвышэйшы Суд прызнаў, што скарб належыць адкрывальніку.

*А вось іншыя падводныя скарбы, якія чакаюць узьняцьця на паверхню:*

*«Titanic», брытанскі пасажырскі карабель, затануў у 1912 г. на адлегласьці 640 км ад узьбярэжжа Новае Фінляндыі, знойдзены ў 1985 г., вартасьць грузу яшчэ не ацэненая;*

*«Central America», амэрыканскае паравое судна, патанула ў 1857 г. у 260 км ад узьбярэжжа Караліны, знойдзенае ў 1988 г., вартасьць грузу ацэньваецца ў мільярд даляраў;*

*Канвой зь Веракруза, 16 гішпанскіх галеонаў, затопленых у 1553 г. непадалёк ад вострава Падрэ, знойдзеныя два караблі, вартасьць грузу 1,8 млрд. даляраў;*

*Канвой з гішпанскім золатам, які выплыў з Гаваны ў кірунку Гішпаніі. Ураган паталіў 11 з 12 суднаў ля ўзьбярэжжа Флорыды. Вартасьць невялікай часткі біжутэрыі, узьнятай сёлета ў ліпені, ацэньваецца ў 2 млн. даляраў;*

*«Nuestra Señora de la Maravillas», гішпанскае судна, затанула ў 1656 г. паблізу Багамскіх выспаў, зьмесьціва ацэньваецца ў мільярд даляраў;*

*Гішпанская Армада: флёт вайсковых караблёў, патануў у 1588 г. паміж Гебрыдамі і паўднёва-заходнім узьбярэжжам Ірляндыі, вартасьць бясцэнная;*

*«Santa Cruz», гішпанскі галеон, патануў пры ўзьбярэжжы Валіі ў 1679 г., скрыні золата і срэбра вартасьцю каля 60 млн. даляраў;*

*«Lutine», брытанскі фрэгат, затоплены ў 1799 г. ля ўзьбярэжжа Галяндыі, хуткая плынь робіць немагчымым адшуканьне ягонага грузу, які ацэньваецца ў 195 млн. даляраў;*

*«John Barry», амэрыканскі грузавы карабель, затоплены ў 1944 г. на адлегласьці 200 км ад узьбярэжжа Амана, вартасьць паміж 5 і 200 млн. даляраў;*

*«Flor de la Mar», партугальскі ветразьнік, патануў у Малакскім праліве ў 1512 г., вартасьць паміж 1 і 9 млрд. даляраў;*

*«San Diego», гішпанскі галеон, у 1600 г. затоплены галяндцамі пры ўзьбярэжжы Філіпінаў, адшуканы ў 1991г., вартасьць яшчэ ня высьветленая.*

Паводле часопіса *Time*

## Як бацюшка абяззброіў рабаўнікоў

У вёсцы дзьверы па завядзёнцы часта не зачыняюць. Аднойчы, а было гэта прыблізна апоўначы, у дом праваслаўнага бацюшкі зь вёскі Голдава Лідзкага раёна завіталі два нападнікі. Яны былі ў масках, трымалі ў руках мяхі для нарабаванага скарбу. Адзін зь іх наставіў на бацюшку пісталет і загадаў ня рухацца, а другі дастаў з кішэні нож. 27-гадовы сьвятар, аднак, не разгубіўся: нагою выбіў пісталет з рук першага нападніка, а другога выцяў у пахвіну. Рабаўнік упаў, тады бацюшка сарваў зь яго маску. Першы кінуўся зьбіраць часткі свайго газавага пісталета, зь якога ад удару аб падлогу выскачыў затвор і набойня. Бацюшка яму перашкодзіў. Рабаўнікі, пакінуўшы пісталет ды мяхі, кінуліся наўцёкі. На вуліцы іх чакаў аўтамабіль «Жыгулі» сьветлага колеру.

Узбуджаная крымінальная справа, вядзецца сьледзтва.

**Ян КАЗІМІРЧЫК**

## 1994: цяжкі год

**Варажбіты ўва ўсім сьвеце абяцаюць, што 1994 год будзе цяжкі, поўны бурлівых здарэньняў, і ня варта спадзявацца ні на якое паляпшэньне сытуацыі.**

Індыйскі прадказальнік Парто Бхаттахар'я прадбачыць у новым годзе індыйска-пакістанскую вайну і залатую ліхаманку на біржах. Джордж Кох з Сынгапура прадказвае ў красавіку і кастрычніку страшныя авіякатастрофы ў ЗША і Кітаі.

Французскі астроляг Шарль Рамбэр дакляруе, што 1994 год будзе вельмі слабы ў эканамічных адносінах. У Эўропе ня зьменшыцца беспрацоўе, а ў эканоміцы і гандлі і надалей будзе паглыбляцца крызыс. Мэдыюм з Балгарыі Гуіна Андрэева абяцае вельмі цяжкую зіму і датэрміновыя выбары. Іншая варажбітка папярэджвае, што прэзыдэнт Жэлю Жэлеў можа трапіць у аўтакатастрофу.

Кепскія прагнозы і для Афрыкі, якая не павінна цешыцца надзеямі на паляпшэньне становішча. Прадказальніца з Кот-д'Івуара абяцае вялізныя фінансавыя цяжкасьці і выбухі людзкой незадаволенасьці, а таксама поўны эканамічны паралюш Афрыкі і нарастаньне нянавісьці да іншаземцаў.

Коста Лефакіс славуты грэцкі астроляг, сьцьвярджае, што сытуацыя ў сьвеце можа пачаць папраўляцца толькі пасьля 1996 года.

*Сабачыя абавязкі*
*Быць верным*
*быць чуйным*
*слухаць пана*
*любіць ката пані*



*Малюнак Пятра Платкавяка ('Rzeczpospolita')*



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 3.01.94. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова №: 1. Наклад 20 000.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12